БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

Квартальнік
Беларускага згуртавання татараў-мусульман
" АЛЬ-КІТАБ "

## N3

Менск 1996

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
" АЛЬ-КІТАБ "

N3

Менск 1996

اعوذ بالله من الشيطان الرجيم

بسم الله الرحمن الرحيم

السلام عليكم ورحمة الله وبركاته

## Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане !

Большасць з тых, хто нарадзіўся і вырас на Беларусі, маюць усе падставы свядома ці несвядома радавацца таму, што яны тут жывуць. Думаю, што большасць нашых людзей, нават калі маглі б як ластаўкі ці журавы адлятаць у вырай, засталіся б дома жыць і ў непагадзь, сцюжу. Бо як жа прыемна, перажываючы горшае, спадзявацца на лепшае.

Можа жыццё чалавека як і надвор'е таксама мае цыклічнасць, толькі фазы больш працяглыя па часе, чым гадавыя. Пасля дзяцінства і юнацтва настае сталасць, затым старасць, а каб перажыць і старасць, дык зноў бы пачаўся новы цыкл ?

Узроставыя змены чалавека адбываюцца на фоне падзей абвастрэння чалавечай, ці можа больш правільна сказаць, нечалавечай варажнечы. Здаецца крыху прытушылася вайна на Балканах у Босніі, спакайнее на Каўказе, у Ічкерыі. Але на шматпакутнай зямлі нашых адзінаверцаў -- курдаў ідзе вайна. Вялікі народ, які налічвае больш за 30 мільёнаў чалавек, не мае сваей дзяржавы. Ірак, Іран і Турцыя, імкнучыся навечна завалодаць прыроднымі багаццямі ( у асноўным радовішчамі нафты ), выгадным стратэгічным палажэннем, якія дараваў гэтаму народу Аллаг, пад выглядам дапамогі тым ці іншым групоўкам сярод курдаў, усімі сродкамі, уключна з авіяцыяй і хімічнай зброяй, вядуць знішчэнне людзей. Зацятая вайна ідзе і ў Афганістане, вайна ідзе ўжо толькі паміж мусульманамі.

І яшчэ вельмі страшнае полымя вайны шугае ў мусульманскай краіне -- у Сярэдняй Азіі, у Таджыкістане. Шматвяковая высокая культура, вучоныя, філосафы і паэты гэтай краіны стагоддзямі былі узорам для блізкіх і далёкіх суседзяў, цяпер не могуць ні прыкладам, ні парадай дапамагчы сваім нашчадкам.

Дык ці ж апамятаюцца людзі ? Жыццё такое кароткае, што калі чалавек памірае натуральнай смерцю, дык ніводзін не можа сказаць

перад сконам, што ён зрабіў на гэтым свеце ўсё тое, што хацеў зрабіць.

Завяршаючы невялікую прадмову да гэтага нумара нашага квартальніка, хачу звярнуцца да вас за парадай. Ці імкнуцца нам да таго, каб друкаваць некралог пра смерць нашых адзінаверцаў. У цывілізаваных краінах, калі не ў газеце, то на асобных стэндах у горадзе паведамляецца пра смерць прыхаджаніна. На Беларусі памірае штогод больш за 200 мусульман, гэта значыць, што за тры месяцы недзе каля 50 чалавек. У нашых умовах, калі адзін раз у квартал, і то нерэгулярна, выходзіць наш часопіс, ці можам мы надрукаваць апошняе слова пра памерлага ? Вядома, у нашай краіне няма службы інфармацыі пра памерлых. Не заўсёды і родныя памерлага спяшаюцца аб сваім горы паведамляць незнаёмым людзям. І дзе ўзяць сродкі, каб надрукаваць у квартальніку некалькі дзесяткаў жалобных паведамленняў, паслаць іх па пошце ва ўсе мясціны, дзе жывуць нашы мусульмане ? А можа вы ведаеце, як вырашыць гэту справу найбольш годным чынам ?

**Мір вам і міласць Аллага !**

---

Пішыце лісты на адрас па-руску :

**220119, г. Минск, ул. Тикоцкого, д. 2, кв. 167.**
**" Аль-Китаб "**

---

# К У Р ' А Н

## Сура Аль-Араф -- Кручы / працяг /

71. Яны адказалі : " Няужо ты прыйшоў толькі для таго, каб мы адзінаму Аллагу пакланяліся і адмовіліся ад багоў, якіх шанавалі вашы продкі ? І калі ты з ліку праўдзівых, то прадстаў нам тое,чым ты нам пагражаеш ".

72. І ён сказаў : " Сапраўды, ужо спасцігла вас кара і гнеў Уладыкі вашага . Ці будзеце вы спрачацца са мною аб імёнах, якімі назвалі іх вашы бацькі ? Аллаг не паслаў зверху ніякага пацверджання аб іх . Чакайце ж і я буду чакаць з вамі ".

73. І выратавалі Мы яго з тых, хто быў з ім, па міласці Нашай, і знішчылі мы апошніх з тых, каторыя адкінулі знаменні Нашыя . І былі яны -- няверныя .

74. І да ( племя ) Самуд паслалі Мы брата іх Саліга . І ён сказаў : " О мой народ ! Аллагу пакланяйцеся ! Акрамя Яго ў вас іншага Бога няма . Прыйшло да вас яснае сведчанне ад вашага Уладыкі : гэта вярблюдзіца Аллага, што стане вам знаменнем Яго . Дайце ей пасвіцца на зямлі Гасподняй, не прычыняючы ей шкоды, каб не наклікаць на сябе суровай кары .

75. Вы ўспомніце, Ён вас паставіў намеснікам народа Ад . І размясціў вас на зямлі, дзе вы ў далінах будуеце сабе палацы і замкі, і высякаеце сабе дамы у скалах . Дык памятайце ( аб усіх ) міласцях Аллага і не чыніце беззаконня на зямлі, выклікаючы смуту .

76. Старэйшыны, якія лічыліся вялікімі сярод свайго народа, сказалі тым, якія лічыліся малымі, тым з іх, якія ўверовалі : " Ці вы ведаеце напэўна, што Саліг пасланы Уладыкам яго ? " Яны адказалі : " Сапраўды, верым мы ў тое, з чым ён прысланы ".
77. Тады тыя, што лічыліся вялікімі, сказалі : " Мы сапраўды не верым у тое, у што паверылі вы ".

78. Затым яны знішчылі вярблюдзіцу, падрэзаўшы ёй падкаленную жылу, і ўпарта дзейнічалі супроць волі Уладыкі і сказалі : " Саліг, нашлі на нас тое, чым ты нам пагражаеш, калі ты сапраўды адзін з тых Пасланнікаў ".

79. І ўздрыгнула зямля пад імі, і ўжо назаўтра ў сваіх дамах яны ляжалі ніц .

80. І ён ( Саліг ) пакінуў іх сказаўшы : " О мой народ ! Я перадаў вам тое, з чым Гасподзь мой паслаў ; і я вам даў добрыя парады, але ( як бачу ) не любіце вы дарадцаў ".

81. І ( Мы паслалі таксама ) Лута ( Лота ). І свайму народу ён сказаў : " Не рабіце вы такую брыдоту, якую ніхто ў свеце да вас не ўчыняў ".

82. " Вы падыходзіце у юру да мужчын замест жанчын . Не, вы людзі -- пераступіўшыя ўсякую меру ".

83. Адказам жа яго народа былі толькі словы : " Праганіце іх з вашага горада, бо гэта -- людзі, якія лічаць сябе чыстымі ".

84. І Мы яго і род яго выратавалі, акрамя яго жонкі, якая засталася ззаду .

85. І наслалі Мы на іх дождж . Бачыце цяпер, якім быў лёс грэшнікаў.

86. І да мадзіпіятаў паслалі Мы брата іх Шуайба . Сказаў ён : " О народ мой, пакланяйцеся Аллагу, няма у вас іншага боства, акрамя Яго . Сапраўды, яснае знаменне прыйшло да вас ад Уладыкі вашага. Давайце поўную меру і поўную вагу, і не абкрадайце людзей і не рабіце смуту на зямлі, калі пануе на ёй парадак . Так будзе лепш для вас, калі вы веруеце .

87. Не рабіце засады на ўсіх шляхах, адстрашваючы і аддаляючы ад Аллага тых, хто паверыў у Яго, спрабуючы гэтым зрабіць шлях крывым . Успомніце, як мала было вас, а Ён вас воляю Сваей памножыў . Глядзіце ж, які быў канец тых, якія непатрэбшчыну чынілі .

وَمَا كَانَ جَوَابَ قَوْمِهٖٓ اِلَّآ اَنْ قَالُوْٓا اَخْرِجُوْهُمْ
مِّنْ قَرْيَتِكُمْ ۚ اِنَّهُمْ اُنَاسٌ يَّتَطَهَّرُوْنَ ﴿٨٣﴾
فَاَنْجَيْنٰهُ وَاَهْلَهٗٓ اِلَّا امْرَاَتَهٗ ۖ كَانَتْ مِنَ الْغٰبِرِيْنَ ﴿٨٤﴾
وَاَمْطَرْنَا عَلَيْهِمْ مَّطَرًا ؕ فَانْظُرْ كَيْفَ كَانَ عَاقِبَةُ
الْمُجْرِمِيْنَ ﴿٨٥﴾ ع
وَاِلٰى مَدْيَنَ اَخَاهُمْ شُعَيْبًا ؕ قَالَ يٰقَوْمِ اعْبُدُوا اللّٰهَ
مَا لَكُمْ مِّنْ اِلٰهٍ غَيْرُهٗ ؕ قَدْ جَآءَتْكُمْ بَيِّنَةٌ مِّنْ رَّبِّكُمْ
فَاَوْفُوا الْكَيْلَ وَالْمِيْزَانَ وَلَا تَبْخَسُوا النَّاسَ اَشْيَآءَهُمْ
وَلَا تُفْسِدُوْا فِى الْاَرْضِ بَعْدَ اِصْلَاحِهَا ؕ ذٰلِكُمْ خَيْرٌ
لَّكُمْ اِنْ كُنْتُمْ مُّؤْمِنِيْنَ ﴿٨٦﴾ ج

Кур'ан . Сура Аль-Араф , аяты 83-86 .

88. І калі некаторыя з вас вераць у тое, з чым быў пасланы я, а іншыя не вераць, тады майце цярплівасць , пакуль Аллаг не рассудзіць нас. І Ён найлепшы Суддзя ".

89. Старэйшыны, якія лічыліся вялікімі ў народзе сваім, сказалі : " О Шуайб ! Мы і цябе, і тых, каторыя ўверавалі з табой, з нашага паселішча прагонім, калі вы не вернецеся да нашых парадкаў і багоў ". Ён сказаў : " Няўжо і тады, калі мы гэтага не жадаем ".

90. Сапраўды, мы сплялі б ману супроць Аллага, калі б цяпер вярнуліся б да вашай веры, пасля таго, як Аллаг выратаваў нас ад яе . І належыць нам не вяртацца да яе, калі толькі не будзе гэта пажадана Аллагу, Уладыку нашаму . Уладыка наш разумее усё ў веданні Сваім . Мы даверыліся Аллагу . О Уладыка наш ! Рассудзі паміж намі і народам нашым па праўдзе, бо Ты найлепшы Суддзя ".

91. І старэйшыны народа яго, якія былі няверным, сказалі : " Калі пойдзеце вы за Шуайбам, сапраўды, будзеце мець страту ".

92. І здарыўся землятрус, і ў хатах сваіх палеглі яны на зямлі .

93. Ты, хто абвінавачваў Шуайба ў мане, зніклі без следу, як бы ніколі і не было іх там . Лічыўшыя Шуайба абманшчыкам -- загінулі .

94. І тады адвярнуўся ён ад іх і сказау : " О народ мой ! Сапраўды, я перадаў вам пасланне Уладыкі майго і перадаў вам шчырую параду . Што ж мне цяпер шкадаваць народ няверцы ".

95. І кожны раз, калі пасланніка Мы ў горад пасылалі, Мы на яго народ абрушалі беды і пакуты, каб ён стаў пакорным .

96. Пасля ў замену бяды Мы давалі яму росквіт і множылі дабро і падлеткаў ( нашчадкаў ) , пакуль яны не гаварылі : " Такія ж змены бяды і дабрабыту перажывалі нашы продкі ". І тут Мы хапалі іх знянацку ( карай ) у тое імгненне, калі яны не думалі аб гэтым .

97. О калі б людзі гэтых гарадоў паверылі і баяліся Аллага, Мы б расхінулі перад імі ўсе даброты неба і зямлі, яны ж палічылі ( Нашы знаменні ) маной . І вось тады Мы паслалі на іх усё, што яны сабе прыгатавалі .

98. Няужо людзі гэтых гарадоў упэўніліся ( у сваёй гардыні так, што думалі ) што гнеў Наш не кране іх ноччу, калі яны ўсе агорнуты сном ?

99. Няужо ў сваёй бяспецы яны настолькі ўпэуніліся, ( што думалі ), што гнеў Наш не кране іх пры святле ( сонца ), калі яны аддаваліся зямным уцехам ?

100. Няужо ў бяспецы яны ад замыслаў ( Усёведаючага ) Аллага ? Але ў бяспецы ад замыслаў Гасподніх толькі тыя, хто абманвае сябе .

101. Няужо ўвачавідкі не паказалі Мы тым, хто ў спадчыну зямлю браў ад былых жыхароў яе, што калі б Мы таго не жадалі, Мы б пакаралі іх за грахі іх і паклалі пячаць на сэрцы іх, каб не ўсвядомілі яны ?

102. Такія былі гарады, ( сумную ) гісторыю якіх Мы расказваем ( для павучання ) табе : да іх з яснымі ( знаменнямі ) ад Нас Пасланнікі з'явіліся . Яны ж не паверылі ў тое, што загадзя маною абвясцілі . Вось так кладзе пячаць Аллаг на сэрцы тых, хто не ўвераваў .

103. І ўбачылі Мы, што большасць з іх не выконваюць запавету, і, сапраўды, убачылі Мы, што большасць іх чыніць зло .

104. Затым жа пасля іх Мы Мусу з яўным знаменнем ад Нас паслалі да Фараона і яго вяльможаў . Яны ж несправядліва іх адкінулі. Паглядзіце, які лёс напаткаў сейбітау смуты !

105. І сказаў Муса : " О Фараон, сапраўды, я Пасланнік ад Уладыкі светаў .

106. І пра Аллага мне можна толькі ісціну гаварыць . Я вам ад вашага Уладыкі знаменне яўнае прынёс . І таму ты волю дай Ісраіля сынам са мною ( тваю краіну ) пакінуць ".

107. ( Яму ) адказаў Фараон : " Калі ты сапраўды прынёс знаменне, пакажы ж нам яго, калі ў словах тваіх ёсць праўда ".

108. І кінуў ( Муса ) кій свой, і ( на вачах ва ўсіх ) ён ператварыўся ў змяю .

109. Пасля ён вынуў сваю руку, і вось яна перад гледачамі яго белая .

110. Вяльможы з народа Фараона сказалі : " Гэта, сапраўды, здольны чарадзей,

111. І ён з вашай зямлі прагнаць вас ( чараунікоў ) хоча . Якой жа будзе ваша парада ? "

112. Яны адказалі : " Адкладзі яму і яго брату, і пашлі па гарадах людзей у пошук,

113. каб прывялі яны да цябе самых спрытных чарадзеяў ".

114. І вось з'явіліся чарадзеі да Фараона і сказалі : " Нам, безумоўна, належыць ўзнагарода , калі яго мы пераўзыйдзем ".

115. Ён ім адказаў : " Так . Вы будзеце набліжаны да маей персоны ".

116. " О Муса, кінеш ( першым ) ты, ці мы будзем кідаць ?", -- сказалі яны .

117. " Кідайце вы ", -- адказаў ён . І калі кінулі яны, то яны вочы людзей зачаравалі і паралізавалі іх страхам тым, што ўтварылі перад імі вялікай ( сілы ) чарадзейства .

118. Тады абвясцілі Мы Мусе : " Кідай кій свой ", -- і вось, імгненна ён глытае тое, што яны ашуканствам учынілі,

119. і адкрылася поўная праўда, і мана таго, што рабілі яны .

120. І былі там яны пераможаны і ператварыліся ( на вачах усіх ) ва прыніжаных і годных жалю .

121. Чарадзеі ўпалі далоў у паклоне .

122. Гаворачы : " Мы веруем у Госпада светаў,

123. Уладыку Мусы і Гаруна ! "

124. І сказау Фараон : " Вы паверылі ў Яго перш, чым я даў вам дазвол на гэта . Несумненна, гэта -- змова, якую вы склалі ў горадзе для таго, каб выгнаць з яго жыхароў яго, але скора даведаецеся вы пра вынікі .

125. Я накрыж рукі вашы адсяку і ногі, затым вас укрыжую ўсіх разам ".

126. Яны адказалі : " Тады накіроўваем ( свой твар ) да нашага Уладыкі,

127. І ты нам помсціш толькі таму, што мы ўверавалі ( усёй душой ) у знаменні нашага Уладыкі, калі яны з'явіліся нам . Уладыка наш ! Пашлі нам цвёрдасць і дай нам памерці пакорнымі Табе ".

128. І сказала старшына народу Фараона : " Ці ты дапусціш, каб Муса і яго народ сеялі смуту ў краіне, і адступіліся ад цябе і багоў тваіх ? " Ён адказаў : " Мы бязлітасна замардуем сыноў іх і пакінем у жывых жанчын іх . Сапраўды, мы пануем над імі ".

129. Муса сказау свайму народу : " Прасіце Аллага аб дапамозе і будзьце цвёрдымі . Сапраўды, зямля належыць Аллагу ; Ён дарue яе ў спадчыну каму ўгодна Яму са слуг Яго . Канчатковы вынік належыць тым, хто баіцца Аллага ! "

130. Яны адказалі : " Нас праследавалі перш, чым ты прыйшоў да нас, і нават пасля таго, як ты прыйшоў да нас ". Ён сказаў : " Уладыка ваш, можа быць, знішчыць вашага ворага і зробіць вас правіцелямі ў краіне, каб мог Ён упэўніцца, як вы дзейнічаеце ".

131. І Мы пакаралі народ фараонаў засухай і неўраджаем пладоў, як перасцярогай для іх .

132. Але калі прыходзіла да іх добрае, яны казалі : " Гэта для нас ". А калі дрэннае здаралася з імі, яны прыпісвалі няўдачы Мусе і тым, хто быў з ім . Але, сапраўды, прычына іх нягод у руцэ Аллага . Але большасць з іх не ведаюць аб гэтым .

133. І сказалі яны : " Якое б ты знаменне ні прынёс нам, каб зачараваць нас, не скорымся табе ".

134. Тады паслалі Мы ім буру, і саранчу, і вошаў, і жаб, і кроў -- яўныя знаменні ; але яны паводзілі сябе ганарліва і засталіся грэшным народам .

135. І калі абрушылася на іх ка́ра, яны сказалі : " О Муса, памаліся за нас Уладыку твайму, згодна з абяцаннем Яго табе . І калі вызваліш нас ад гэтай ка́ры, сапраўды, мы паверым табе і , сапраўды , адпусцім з табою сыноў Ісраіля пайсці з табою ".

136. Але калі вызвалілі Мы іх ад ка́ры да вызначанага тэрміну, яны парушылі свае абяцанні .

137. Мы адпомсцілі ім і ў моры патапілі за тое, што несапраўднымі палічылі знаменні нашыя і былі неўважлівымі да іх .

138. І Мы ў спадчыну далі людзям і ўсходнюю і заходнюю частку зямлі, якую благаславілі ім ( на пражыванне ). І міласцівае Слова Уладыкі твайго споўнілася для сыноў Ісраіля, бо яны былі цвёрдымі ; і Мы разбурылі усё, што пабудаваў Фараон і народ яго, і ўсё, што стварылі яны .

139. І Мы пераявілі сыноў Ісраіля цераз мора ; і сустрэлі яны народ, які шанаваў балваноў . Тады яны сказалі : " Муса ! Ты Бога нам створы, падобнага на таго, якога маюць гэтыя людзі ". Ён сказаў : " Сапрауды, несвядомы вы народ !

140. Што тычыцца да гэтых людзей, сапраўды, знішчана будзе ўсё, чым яны займаюцца; і марным будзе ўсё, што яны рабілі ".

141. Ён сказаў : " Ці буду я шукаць для вас іншага Бога, чым Аллаг, калі Ён узвялічыў вас над усімі народамі ?

142. І памятайце, Мы вас выратавалі ад Фараона, які вас мучыў, забіваў вашых сыноў і пакідаў жывымі толькі жанчын . І было у гэтым -- выпрабаванне ад вашага Уладыкі .

143. Назначылі Мы Мусе тэрмін з трыццаці начэй, яго дапоўнілі пасля яшчэ дзесяццю начамі . Такім чынам тэрмін, устаноўлены Уладыкам яго, склаў сорак начэй . І Муса сказаў брату свайму Гаруну : " У час маёй адсутнасці дзейнічай ты за мяне сярод народа майго і кіруй ім мудра, і не ідзі па шляху тых, хто сее смуту ".

144. І калі прыйшоў Муса ва ўстаноулены Намі тэрмін і Уладыка начаў з ім размаулять, ён сказау : " Уладыка мой, яві Сябе мне, каб мог я зірнуць на Цябе ". Ён адказаў : " Не ўбачыш ты Мяне, але зірні на гару ; і калі застанецца яна стаяць на сваім месцы, тады ты ўбачыш Мяне ". Але калі явіў Сябе Уладыка яго на гары, Ён пашчапаў яе на дробныя кавалкі, і Муса ўпаў у беспрытомнасці . І калі апрытомнеў, ён сказау : " Святы Ты, звяртаюся да Цябе, і першы я з тых, хто ўверавау ".

145. Аллаг сказаў : " О Муса, Я выбраў цябе з сучасных табе людзей і паставіў цябе над імі праз пасланні Мае і праз Слова Маё . Бяры ж тое, што Я даю табе і будзь з тых, хто ўдзячны ".

( Працяг будзе ).

Да 75-й гадавіны з дня нараджэння
Сцяпана Александровіча

# РАДЗІМА МАЯ -- КАПЫЛЬ

Пражылося ўжо нямала, давялося і перажыць вельмі многа, толькі напісаў мала, а для літаратуры зрабіў яшчэ менш. Таму, з аднаго боку, ёсць пра што пісаць у аўтабіяграфічных нататках, а з другога -- пісаць іх мо і ранавата....

Радзіма мая -- старадаўні Капыль, што раскінуўся на маляўнічых пагорках, між зялёных лясоў і ўрадлівых палеткаў Случчыны. Нарадзіўся я 15 снежня 1921 года. Бацькі -- беларускія татары. Можа гэта гучыць крыху дзіўна, але сапраўды так.

У Капылі здаўна жыла жменька нашчадкаў мангольскіх плямён. Сядзібы іх туліліся на дзвюх вулічках -- Татарскай і Замкавай, ля плыценькай Каменкі, побач з высокім замчышчам ( паводле падання, усе яны некалі складалі асабістую ахову капыльскага князя ). У этнаграфічным абліччы мясцовых татар захаваліся яшчэ ўсходнія рысы, сяк-так ліпелі свае звычаі і абрады, але родную мову яны ўжо даўно страцілі і гаварылі па-беларуску. Большасць сем'яў выраблялі аўчыны і скуры, некаторыя займаліся агародніцтвам ці проста земляробствам. Увогуле капыльскія татары цесна зжыліся з мясцовым насельніцтвам і ў сваім штодзённым побыце мала чым адрозніваліся ад беларусаў.

Мой бацька некалі таксама жыў на Татарскай вуліцы, але пасля жаніцьбы купіў сабе хату на Какорыцкай вуліцы, якраз насупраць школы. Ён выраблялў аўчыны, і я з маленства авалодваў нялёгкім гарбарным рамяством.

Кожную нядзелю і чацвер ( у гэтыя дні ў Капылі кірмаш ) на нашым двары снавалі людзі : адны прывозілі аўчыны ў работу, другія забіралі вырабленыя скуры. Такія дні я любіў.

У бацькі была свая " парафія ". Да яго прывозілі аўчыны са Сцяпур, Калодзезнага, Жавалак, Вялікай і Малой Раёўкі, Кудзінавіч, Какорыч. Там было многа добрых знаёмых і сяброў. Яны прыязджалі, распрагалі коней ля нашай хаты, садзіліся за стол -- і пачыналася бяседа. Госці прывозілі нам, дзецям, гасцінцы : яблыкі, арэхі ці гарбузікі. Любіў я гасцей яшчэ і за тое, што на іхніх санках можна было пад'ехаць на кірмаш і вярнуцца назад або праехаць да крыжа, што стаяў за нашым агародам.

Такія забаўкі былі пераважна зімою. Затое летам -- прыволле. Наша сядзіба была канцавая, за ёю адразу пачыналіся палеткі. І я са старэйшым братам Ісмаілам хадзіў гуляць у Равок -- лугавую лагчыну, што знаходзілася за крыжам. Там з крынічкі выцякаў ручаёк, паабапал якога

цвілі кветкі, далей на пагорку раслі грушы-дзічкі і густыя ядлоўцавыя кусты.

Было ў нас яшчэ адно любімае месца. Недалёка ад Раўка, пры дарозе на Якубавічы, у полі ўзвышаліся тры курганы, зарослыя травою і ляшчэўнікам. Мне тады яны здаваліся высознымі ўзгоркамі. Залезеш на курган -- і перад табою калышацца збажына, зеляненюць шнурочкі бульбы, ільну, зусім блізка сінеюць Маргі, Руднікаў лес, Герыкава пасека, Якубаўская пералясанка, Стодзесяціны і нават, здаецца, прыблізіліся Русанкі -- капыльская ўскраіна. Ля самага кургана, цераз усю жытнюю лаву ў напрамку на лес Стодзесяціны, вяла вузенькая, добра ўталтаная сцежка. Мяне страшэнна здзіўляла і нават бянтэжыла тое, што я ні разу не бачыў, каб хто хадзіў гэтай сцежкай, а яна такая ўтрамбаваная. І я доўга думаў, што яе пратапталі русалкі і... кантрабандысты.

У маёй дзіцячай памяці надоўга пакінуў уражанне такі эпізод. Неяк улетку яшчэ на досвітку затарахцела брычка, пачуліся стрэлы, крыкі -- і ўсё сціхла. А потым стала вядома, што міліцыя зрабіла засаду на кантрабандыстаў ( недалёка ад Капыля тады праходзіла граніца ), а тыя, уцякаючы, параскідалі на нашай вуліцы запалкі, сахарын, хромавыя выцяжкі.

Змалку я палюбіў капыльскія ваколіцы, поўныя нейкага чароўнага хараства. Мясціны тут узгоркавыя, краявіды вельмі маляўнічыя і каларытныя. Адразу кідалася ў вока, што мястэчка стаяла на беразе вялікага рэчышча, на самым дне якога блішчэла пакручастая Каменка. Хоць рэчышча зарасло дробналессем, на схілах зелянела збажына, а дзе было і забудавана, але профіль яго добра вырысоўваўся, асабліва, калі глянеш з высокага замчышча. Па-свойму дзівосна выглядалі адсюль, з замка, вузенькія гарыстыя капыльскія вуліцы і вулачкі, нязграбныя купецкія муры і крамы, касцельныя вежы.

Улетку я часта блукаў па капыльскіх палетках, ездзіў з бацькам, зімою гойсаў на лыжах.

Неўзабаве сталася так, што яшчэ больш я зжыўся з роднымі ваколіцамі, яны сталі для мяне другім домам. Калі я вучыўся ў пятым класе ( было гэта у цяжкую вясну 1933 года ), адна за адною бяда прыйшлі ў нашаю сям'ю. Давялося мне са старэйшым братам ісці ў заработкі з пугаю ў руках.

Чатыры гады я адгакаў на пастухоўскай " службе ". Даводзілася нясоладка : прыходзілася прапускаць урокі, адставаць ад хлопцаў не хацелася ; у печанцы ўядалася халодная дажджлівая восень. Але самае цяжкае было у тым, што ў торбе часам толькі кніга і некалькі сырых бульбін. Добра, калі якая-небудзь спагадлівая гаспадыня дасць " выганяльнага " -- кусок хлеба і бутэльку малака ( каровы свае ў нас тады ўжо не было ).

Адпак тыя пастухоўскія гады далі мне многае. Я яшчэ больш адчуў і глыбей зразумеў красу беларускай прыроды. Ад самай вясны і да позняй восені прыходзілася быць на лясным прыволлі, у полі і на лузе. На маіх вачах з'яўлялася ў Рауку і ў Пярэдняй Шыі першая кволая зеляніна, пасля яна буяла і набывала розныя фарбы і адценні, каб потым перайсці ў залацістыя колеры. Мне падабаліся цёплыя летнія навальніцы, калі маланка пісагавала неба, моцна ляскаў пярун, ліло як з вядра, а ты схаваўся дзе-небудзь у зацішку і назіраеш, што дзеецца навокал. Здаралася, дождж заставаў у полі - і гады на табе ніводнай сухой нітачкі.

Асабліва падабалася мне пасвіць каровы ў жніўні і верасні. У полі прастор, іржышчам можна трапіць з аднаго палетка ў другі. У торбе яблыкі, грушы, маласольныя гуркі -- ляжы сабе і чытай кнігу. Можна дагаварыцца з сябрамі-пастухамі і па чарзе рабіць вылазкі у арэхі і грыбы. А што за смаката бульба, печаная ў прысаку !

Навучыўся я па ледзь улоўных прыкметах і з'явах угадваць заўтрашняе надвор'е, па даўжыні ценю беспамылкова вызначаць час, не раз наглядаў, як " гуляе " раніцаю сонца на небе.

Так я чатыры гады трымаў у адной руцэ пугу, а у другой кнігу. Чытаў многа, чытаў запоем, аддаючы перавагу беларускай кніжцы. Увогуле трэба сказаць, што творы беларускіх пісьменнікаў у Капылі карысталіся вялікім поспехам. Па руках у мястэчку хадзілі зачытаныя да дзірак раманы " Сцежкі-дарожкі " М. Зарэцкага, " Сокі цаліны " капылянца Цішкі Гартнага, палескія аповесці Якуба Коласа. Для меня гэтыя кнігі былі яшчэ недасягальнай марай, я гады яшчэ чытаў " Палескіх рабінзонаў " і " У краіне райскай птушкі " Я. Маура, купляю усе выпускі з серый "Бібліятэка школьніка" і "Малады прыродазнаўца".

У Капылі здаўна, яшчэ да рэвалюцыі, склаліся значныя літаратурныя традыцыі. У 1910 - 1911 гг. у мястэчку па ініцыятыве і пры ўдзеле Цішкі Гартнага выпускаліся рукапісныя часопісы " Заря ", " Голас низа " і " Вольная думка ". Многія выпісвалі " Нашу ніву ", друкаваліся ў ёй, чыталі кнігі Я. Купалы і Я. Коласа.

Вялікай папулярнасцю сярод капылянцаў карысталіся беларуская народная песня і пастаноўка. Быў у Капылі свой тэатральны гурток, прыязджаў сюды І. Буйніцкі. Недалёка ад нашага мястэчка знаходзіўся Нясвіж са сваёй семінарыяй; многія настаўнікі, якія там вучыліся, асабіста ведалі Я. Коласа. Семінарысты прывозілі беларускія кнігі, прымалі ўдзел у самадзейнасці, ставілі беларускія п'есы, дэкламавалі вершы.

Зусім натуральна, што пасля Кастрычніка цяга да беларускай кнігі і роднага слова ў нашым мястэчку яшчэ больш узрасла. Гэтаму садзейнічала і тое, што ў беларускай літаратуры актыўна працавалі нашы землякі Цішка Гартны, Алесь Гурло, Нічыпар Чарнушэвіч, Мікола

Хведаровіч, цімкавец Кузьма Чорны, у Ленінградзе жыў літаратуразнаўца Леў Клейнбарт, які таксама не забываў родны Капыль.

Асаблівай павагай і аўтарытэтам карыстаўся ў мястэчку Цішка Гартны. Кожны яго прыезд на радзіму быў цэлай падзеяй у жыцці Капыля. Я хлапчуком некалькі разоў бегаў на Свяржэнскую вуліцу ( там жыла маці пісьменніка ), каб паглядзець аўтара " Сокаў цаліны ". Пасля, пасучы каровы, я некалькі разоў бачыў яго ў полі : Ц. Гартны любіў блукаць па капыльскіх ваколіцах, па тых сцежках, дзе прайшло яго пастухоўскае маленства.

Мой бацька быў асабіста знаёмы з выдатным пісьменнікам, часта расказваў пра яго, ведаў на памяць " Песні гарбара ". У нашай хаце заўсёды ўспаміналі Ц. Гартнага добрым словам, бо ён нам аднойчы дапамог.

Здарылася гэта так. Сям'я наша налічвала сем душ, але лепшы пакой, дзе мы з братам вучылі ўрокі гадоў два, " часова " займаў нейкі васпаваты Бандарэнка. Неяк у Мінску бацька сустрэў Ц. Гартнага , слова за слова і расказаў яму, што сельсавет пасяліў кватаранта, які заняў паўхаты, і ніякай рады яму нельга даць. Пісьменнік павёў бацьку адразу да самога Чарвякова. Пакуль бацька вярнуўся з Мінска, Бандарэнка цішком пераехаў на другую кватэру.

Пра Ц. Гартнага шмат апавядаў колішні супрацоўнік " Вольнай думкі " і " Голоса низа " Рыгор Чарнушэвіч, па мянушцы Філосаў, -- ён доўга быў аднаасобнікам, часта пасвіў свайго каня ля Руднікавага лесу, дзе хадзілі мае каровы, -- там і пачыналіся бясконцыя апавяданні. Па-ранейшаму Р. Чарнушэвіч пісаў вершы ( зрэдку яны друкаваліся ў раённай газеце ), жыў бабылём, і ў яго хаце збіралася зімовымі вечарамі дзетвара амаль не з усёй Садовай вуліцы, каб паслухаць яго творы, жарты і анекдоты. Быў па гэтых " літаратурных " вечарах і я.

Давялося сустракацца мне і з Алесем Гурло. Малодшая сястра паэта жыла тады па суседству з намі на Какорыцкай вуліцы. Аднойчы ўлетку я прыходжу раненька выганяць яе карову, а на двары, накульгваючы, тупае нейкі высокі хударлявы мужчына. Пачаў ён мяне распытваць, чый я, у якім класе вучуся, ці люблю чытаць кнігі. Так я сустракаў яго некалькі разоў і дзівіўся, чаму на гэтага чалавека сну няма : на досвітку сядзіць і ўжо нешта піша ці чытае. Потым я даведаўся, што гэта Алесь Гурло.

Атмасфера асаблівай увагі да творчасці пісьменнікаў-землякоў, да беларускага мастацкага слова зусім заканамерна скіроўвала думку на тое, каб і самому паспрабаваць сілы. А тут якраз у верасні 1935 г. у Капылі з'явіўся Аляксей Коршак, які паступіў у восьмы клас сярэдняй школы. Кватараваў Аляксей недалёка ад нашай хаты, на суседняй вуліцы, вучыўся з маім старэйшым братам у адным класе, таму вельмі часта

бываў у нас. Ён многа чытаў, уладарамі яго дум былі Купала і Багдановіч. Пасля я даведаўся, што гэты ўдумлівы і працавіты хлапец піша вершы. Аднойчы Аляксей прапанаваў выпускаць рукапісны літаратурны часопіс. Мой брат добра маляваў, ён заняўся афармленнем, Коршак, я і яшчэ некалькі хлопцаў далі вершы, апавяданні, гумарэскі, -- так з'явіўся першы нумар " Юнага племя ". Паказалі выкладчыку беларускай літаратуры, але той асаблівых заўваг не зрабіў. Тады вырашылі паказаць пісьменнікам, якія прыедуць у Капыль.

Якраз у гэты час, у снежні 1936 года, адзначалася стагоддзе з дня нараджэння яшчэ аднаго вядомага капылянца -- класіка яўрэйскай літаратуры Мендэля Мойхер-Сфорыма. У Капыль прыехалі Кандрат Крапіва, Ізі Харык, Майсей Кульбак, армянскі паэт Наіры Зар'ян. Пасля юбілейных урачыстасцей адбыліся літаратурныя вечары. У маёй памяці засталося, як Крапіва чытаў байку " Дзед і баба ".

Вядома, ніхто з нас не адважыўся паказаць пісьменнікам свой часопіс, але пісаць не пакідалі : выйшла яшчэ два нумары.

Неўзабаве пайшла пагалоска, што ў беларускай літаратуры выкрыта многа " ворагаў народа ". Сярод іх Цішка Гартны, Алесь Чарот, Міхась Зарэцкі і інш. Аб гэтым пісалі ў газетах, гаварылі на ўроках настаўнікі.

Але аднойчы зайшоу я ў школьную бібліятэку, а там сядзіць на коленцах сівы бібліятэкар -- мой колішні настаўнік -- і звязвае кнігі шпагатам. Убачыушы мяне, ён кажа :

-- Калі праўда ёсць на свеце, -- а я ўпэунены, яна ёсць, -- то гэтыя кнігі яшчэ спатрэбяцца. Бяры і беражы іх ад дрэннага вока ! Некалі вернеш у бібліятэку і ўспамянеш маё слова.

Калі змеркла, я прынёс дамоў некалькі вялікіх пакункаў кніг, часопісы " Полымя ", " Узвышша " і "Маладняк" і два нумары " Росквіту ".

Забягаючы наперад, скажу, што тыя кнігі я старанна захоўвау, але, прызнаюся, у школьную бібліятэку іх не вярнуў : многія кнігі прыйшлося раздаць самім пісьменнікам, якія вярнуліся з далёкіх і нялёгкіх дарог.

На гэтым юнацтва кончылася. Жыццё пачало імкліва набіраць тэмп, і я апынуўся ў самым яго віры.

Не ўспеў агледзецца ў Мінску ( у верасні 1939 г. я паступіў на філфак БДУ ), як мяне праз які месяц забралі ў салдаты. Трапіу я ў танкавую брыгаду, аднак служыць давялося ў стралковым, а потым горна-стралковым палку.

З танкавай брыгадай у фінскую вайну ледзь не трапіў на Карэльскі перашыек. Высадзілі ўжо з эшалона як салдата першага года службы. На кароткі час узялі ў лыжны батальён, а потым у роту сувязі стралковага палка.

Першы год службы ў арміі заўсёды нялёгкі, а навабранцам прызыву 1939 года ён выдаўся асабліва цяжкім. Ішла вайна з белафінамі, наш полк

увесь час знаходзіўся на вучэннях, " набліжаных да ваенных умоў ".Гэта азначала, што у лютую зіму з 1939 на 1940 год ( яна сваімі маразамі далася у знакі многім ) я па-пластунску папапоўзаў у прыволжскіх палях і лясах, пападрыжэў на холадзе, седзячы ля тэлефоннага апарата. Тыя дні засталіся ў памяці -- вельмі хацелася есці і яшчэ больш спаць ( чамусьці ўсе паходы і пераходы здараліся ноччу ).

Аднойчы паднялі па трывозе, павялі ў лазню, далі там усё навюткае ад шапкі-вушанкі да ануч, новую вінтоуку яшчэ з заводскім маслам. Пасадзілі у цяплушкі. Цяпер трымайся ! Усе ведалі, куды павязуць. Але раптоўна -- мір ! Эшалон павярнуў крута ў процілеглы бок -- і я ў Баку.

На Волзе лютавалі маразы, тут жа бязлітасна смажыла сонца. Прывыкай, браце ! Прайшоў год службы, пачауся другі. На сэрцы стала весялей.

У суботу 21 чэрвеня 1941 года мы з Васілём Сямашкам -- настаўнікам з Барэзінскага раёна, седзячы ў падвале -- вінным магазіне на Прыморскім бульвары ў Баку, вылічалі, колькі яшчэ засталося служыць. А назаўтра....

Неузабаве я прымаў удзел у марскім дэсанце на іранскі бераг ля горада Пехлеві. Пасля Ірана хадзіў пехатою у Дагестане па сцежках Паляжаева -- быў у Буйнакску, Хасаўюрце, Эрпелі, Чыркеі, сталіцы Шаміля -- Гунібе. У снежні 1941 года я наглядаў ужо з акна нейкага анапскага санаторыя,ператворанага у салдацкую казарму, як хвалюецца Чорнае мора.

Хоць жылі мы ў санаторным будынку, жыццё было далёка не санаторнае : рыхтаваўся дэсант у Крым. Я тады скалясіў усю Кубань, некалькі разоў давялося трапіць у лермантаускую Тамань, адкуль пазіраў на таямнічы крымскі бераг, заняты немцамі.

Неўзабаве, перад самым Новым 1942 годам, прыйшлося ступіць на той бераг у Камыш-Буруне. У Керчы яшчэ ішлі баі, недзе блізка рваліся міны, а мы высаджваліся з нейкай рыбацкай пасудзіны. Потым імклівы марш у напрамку супрацьтанкавага рова і паварот на Арабацкую стрэлку -- пясчаную касу, што аддзяляе Азоўскае мора ад Сіваша, з мэтай выйсці на Украіну -- у Генічаск. У памяці засталося адступленне з касы на Керчанскі паўвостраў пад нямецкімі бомбамі, цяжкія абарончыя баі, наступленне на Джантару, палонныя румыны. У пачатку мая прайшлі вясновыя дажджы, якія канчаткова разбурылі адзіную, разбітую танкамі дарогу, што вяла на Керч і якой нам давялося адступаць. 16 мая я ля старой крэпасці Енікале быў паранены, а праз тыдзень трапіў у палон.

Увогуле жыццёвы тэмп быу незвычайны : у 18 год я быў у арміі, у 20 -- на фронце, у 21 -- у палоне.

Пасля лагер ваеннапалонных у Крывым Розе, стограмоўка хлеба, шклянка эрзац-кавы, нясоленая баланда з гнілых цукровых буракоў ці кукурузнага шалупіння. Выратавала маладосць і вера ў тое, што " паміраць нам ранавата ". * Разам з сябрамі-украінцамі уцёк з лагера і пасля амаль двухмесячнага блукання, прайшоушы Украіну і Палессе, у вёсцы Сярэднікі пад Слуцкам зваліўся з ног. Адзін дзядзька зліітаваўся і прывёз мяне ледзь жывога ў Капыль. Было гэта ў кастрычніку 1942 г.

Пацягнуліся пакутлівыя дні дамашняга арышту. З хаты не пускала хвароба, баяўся я і чужога вока. На легальнае становішча перайшоў канчаткова вясною 1943 г. К гэтаму часу ў мяне ужо наладзіліся сувязі з партызанамі, якім бацька вырабляу аучыны і круціў сырамяць на збрую.

Усё перажытае ў тыя трывожныя гады маладосці таксама просіцца ў кнігу, таму скажу коратка : стаў членам капыльскай падпольнай групы, выканаў два баявыя заданні, Савецкую Армію сустракаў у партызанскім атрадзе.

Педагагічную працу пачаў дырэктарам сямігадовай школы, быў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе, бібліятэчным тэхнікуме, цяпер працую на філалагічным факультэце БДУ імя Леніна. Асвету атрымау без адрыву ад вытворчасці : завочна вучыўся ва універсітэце і аспірантуры, кандыдацкую дысертацыю абараніў у 1958 годзе.

Асаблівае ўражанне на мяне зрабіла настаўніцкая праца ў Навагрудскай беларускай сярэдняй школе N 1. Школа мела даўнія і слаўныя традыцыі. Размяшчалася яна ў будынку былой беларускай гімназіі, якую закрылі белапанскія ўлады. Будынак таксама меў сваю гісторыю : сродкі на яго пабудову сабрала ТБШ ( Таварыства беларускай школы ) сярод сялян Навагрудчыны. Настаунiцкі калектыў дружны і працавіты. Многа тут было колішніх выкладчыкаў гімназіі -- людзей па-сапраўднаму адукаваных і адданых любімай справе. Я ў іх вучыўся весці ўрок жыва, цікава і ўзнёсла, рабіць на ўроку такія " лірычныя " адступленні, якія выконвалі б выхаваўчую ролю і давалі магчымасць " па душах " гаварыць з вучнямі.

Чатырнаццаць год я адпрацаваў настаунікам у сярэдняй школе і тэхнікуме. За гэты час добра пераканаўся, наколькі складаная і нялёгкая, але ўдзячная і пачэсная справа быць выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Усё трымаецца на тваім слове і энтузіязме ! Значыцца, слова тваё павінна быць яркім і змястоўным, а сорок пяць хвілін урока насычаны жывой справай. Затое ніколі не забуду, як гарэлі вачаняты ў дзяцей, калі чыталі " Новую зямлю ", з якой ахвотаю развучвалі і ставілі васьмікласнікі на школьнай сцэне " Пінскую шляхту " ці " Паулінку ".

---

* Пра гэты перыяд жыцця напісаў аповесць " Далёкія зарніцы ".

Я і сёння лічу сябе выкладчыкам роднай літаратуры сярэдняй школы. Уважліва сачу за літаратурай, якая выдаецца для маіх калег. Стараюся і сам напісаць сёе-тое, што дапамагала б ім у падрыхтоўцы да ўрока. Двойчы выдавалася ўжо мая кніга краязнаўчых і біяграфічных нарысаў " Незабыўнымі сцежкамі ", трапіла у настаўніцкія рукі і аповесць пра дзіцячыя гады і юнацтва Я. Коласа " Ад роднае зямлі ", нядаўна выйшаў працяг " Сцежак " -- зборнік " Па слядах паэтычнай легенды ". Ёсць у мяне і даўняя запаветная мара -- напісаць аповесць ці раман пра школу, дзе галоўным героем быў бы выкладчык беларускай літаратуры. Нават пачатак ( старонак пяцьдзесят ) гэтай кнігі ўжо даўно напісаны.

Ёсць у мяне свае, так сказаць, навуковыя інтарэсы. Я шмат праседзеў у бібліятэках, лістаючы рускія і польскія часопісы і газеты, знаёміўся з архіўнымі матэрыяламі і прыйшоў да вываду, што наша літаратуразнаўства ў збедненым выглядзе паказвае айчынную літаратуру мінулага стагоддзя. Многае тут трэба перагледзець, пераасэнсаваць, апублікаваць і ўвесці ў літаратурны ужытак.

Цяпер у мяне на варштаце другая кніга аповесці " Ад роднае зямлі ", у якой мяркую паказаць жыццё і творчую працу Якуба Коласа у 1902 - 1917 гг. Сабралася ужо многа цікавых успамінаў, запісаў і нататак пра Кузьму Чорнага і цімкаўцаў. Трэба знайсці нейкую такую форму, каб выкарыстаць увесь гэты багаты дакументальны і бытавы матэрыял, каб атрымалася кніга не толькі пра К. Чорнага, але і пра людзей Капыльшчыны -- герояў яго самабытных раманаў.

4 сакавіка 1965 г.

З кнігі " Пра час і пра сябе "
Мінск, 1966, сс. 7 - 15.

# ТАТАРЫ НА БЕЛАРУСКІ ЛАД

Саракагадовы юбілей " Нівы " паварушыў маё сумленне. А яно грэшнае. Я ж у вялікім даўгу перад беларускім штотыднёвікам, не друкуючыся ў ім, уласна кажучы, ад таго часу, калі пераехаў у Сопат па сямейных прычынах.

На юбілеі не быў, аднак, як адзначаў у пісьмах майму колішняму галоўнаму рэдактару Георгію Валкавыцкаму і зараз узначальваючаму " Ніву " Яўгену Мірановічу, духоўна абяцаў прысутнічаць у Беластоку ў гэты знамянальны час. Адлегласці не маюць тут ніякага значэння, тым больш, што я звязаны з гданьскай " Беларускай хаткай ", а яна паслядоўна спрыяе мне і надалей знаходзіцца ў беларускай плыні.

Пішучы гэтыя словы, адчуваю моцны прыліў асабліва чуллівых пачуццяў, агортваючых сабою час амаль саракагадовай даўнасці, калі ўпершыню пераступіў я парог рэдакцыі " Нівы " яшчэ на вуліцы Маніфесту Ліпцовага. Гэта быў 1957 год. Такім чынам я апынуўся ля вытокаў беларускай публіцыстыкі ў Беластоку. Праўда, год раней ужо звязаўся з варшаўскай беларушчынай і такім чынам пракладаў шлях у " Ніву ", аднак акрамя адзінага артыкула у ёй, больш не друкаваўся. А дэбютаваў я ў 20 н-ры " Нівы " ад 15 ліпеня тэкстам аб перакладчыцкай дзейнасці Янкі Купалы, які прысвоіў беларускай мове творы Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі і Марыі Канапніцкай.

І так пачалося....

Яшчэ заўчасна на ўспаміны, хаця найбліжэйшае маё асяроддзе не дае спакою і проста прымушае ўзяцца за іх. Сёння не маю права пазбегнуць пэўнага для мяне каштоўнага гістарычнага факта. Вось побач ляжыць пісьмо тагачаснага супрацоўніка літаддзела " Літаратуры і мастацтва " Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. Працытую першы сказ : " Была ў нас у рэдакцыі цёця Уладзя ( жонка Янкі Купалы -- мая заўвага ) і я даведаўся Ваш адрас. Прызнацца, я ўжо збіраўся напісаць Вам ліст. Мы ў рэдакцыі чытаем Вашы вельмі слушныя і цікавыя артыкулы ў " Ніве " і з вялікай прыемнасцю змясцілі б Ваш артыкул у нашай газеце ... "

Выбачайце, дарагія чытачы, за няскромнасць, што змясціў гэтыя словы, аднак яны далі пачатак маёй любімай тэматыцы ў " Ніве ", пазней у польскамоўным друку, у радыё. Гэта аказалася неацэннай падтрымкай, асноўным штуршком, ідучым з нетраў інтэлектуальнага руху Беларусі.

Калі ў снежні бягучага года ў Мінску будуць адзначацца 75-ыя угодкі нараджэння заўчасна памерлага Сцяпана Х. Александровіча,

тады ўжо публічна выкажу мае думкі, падзялюся ўспамінамі пра вучонага, перш за ўсё фактамі, маючымі адносіны да шчыльнага з ім супрацоўніцтва ў галіне доследаў беларуска-польскіх сувязей у літаратуры.

Дзякуючы " Ніве ", а разумеецца, што персанальна-сяброўскім адносінам да мяне Г. Валкавыцкага, увогуле цэлага калектыву "Нівы", мог я, пачынаючы з 1957 года ўзнімаць гэтую тэматыку. Мой перыяд працы у " Ніве " лічу цудоўнай духоўнай прыгодай. Аб ёй я яшчэ раскажу, зразумела, на гэтых старонках.

Зараз спынюся на пытанні, якое з'яўляецца часткай шматвяковага татарскага працэсу ў гісторыі трох народаў : беларускага, польскага і літоўскага. Зразумела, у нашым выпадку, спецыяльную увагу прысвячу татарам на беларускі лад. А нагода дзеля гэтага незвычайна важная. У 1997 годзе у нашай частцы Еўропы адзначаем 600-годдзе пасялення татарскіх воінау і іх сем'яў. Падставай для гэтай падзеі з'яўляецца адзін з фрагментаў хронікі Яна Длугаша. Вялікі польскі летапісец пакінуў нашчадкам нататку аб заснаванні татарскіх паселішчаў у Вялікім Княстве Літоускім, менавіта ў 1397 годзе.

Татары татарамі, а справа тут міжцывілізацыйнага маштабу. Чаму ? Каб паясніць, павінен я яшчэ раз успомніць 1957 год, аднак зараз у іншай маёй публіцыстычнай дзялянцы. Тады працаваў я ў Польскім прэсавым агенцтве ( Polska Agencja Prasowa ) у Варшаве ; уключыўся у папулярызацыю мінулага і сучаснасці татараў, караімаў, яўрэяў, армянаў у ПАПаўскіх матэрыялах. Да гэтага абавязвалі мяне, а таксама маіх супрацоунікау пастулаты Польскай рабочай групы " Праекта Усход - Захад ", заснаванай у 1957 годзе па ўказанні IX Сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА у Нью-Дэлі. Сесія вырашыла абнародаваць патрэбу ўсялякіх міжнародных і рэлігійных мерапрыемстваў на карысць узаемапазнання ўкладу Усходу і Захаду да агульнай чалавечай цывілізацыі. А прынамсі татары, як трывалы след мусульманскага свету сярод славянскіх і літоўскага народаў, уяўляюць сабою дадатковую крыніцу ведаў аб жыццяздольнасці ў нас элементаў Ісламу і ўвогуле цюркскай этнічнай стыхіі, яе адначасова здольнасці ўзбагачаць традыцыі паасобных народаў.

Дзякуючы " Ніве ", я мог працягваць гэтую тэматыку ўжо ў Беластоку, а з цягам часу пачаў друкавацца ў польскіх навуковых часопісах і крыху за мяжою. Маю надзею, што ўжо ў больш канкрэтным намеры давялзецца ўзняць гэтую тэматыку ў " Ніве ". Да гэтага кроку забавязвае багаты гістарыяграфічны набытак татараў у Беларусі, а салідарызавацца з маімі аднаверцамі такім чынам магу толькі ў беларускім штотыднёвіку. У параўнанні з дасягненнямі татараў польскіх і літоўскіх -- беларускія ў выяўленні невядомых

дагэтуль фактаў з роднай гісторыі займаюць, так сказаць, першае месца. Падшыўкі часопіса " Байрам " ( " Свята " ), органа Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб " ( " Кніга " ), чарговыя выданні з дакладамі на міжнародных канферэнцыях, арганізаваных разам з навуковымі ўстановамі Беларусі, мерапрыемствы мастацкага характару, інтэнсіўныя міжнародныя кантакты, у прыватнасці з краінамі Ісламу -- гэта далёка не ўвесь пералік пачынанняў маіх беларуска-татарскіх супляменнікаў.

Калі ў 1993 годзе быў я на Першым з'ездзе беларусаў свету, дарэчы ўпершыню ў Беларусі, тады ўрэшце сустрэўся са сваякамі па бацьку-мянчаніну. Меў гонар пабыць сярод адзінаверцаў, у прыватнасці сутыкнуцца з Абу-Бекірам Шабановічам, прэзідэнтам " Аль-Кітаба ", з Якубам Якубоўскім, адказным рэдактарам "Байрама", чалавекам энцыклапедычных ведаў, урэшце з Ібрагімам Канапацкім ( нашы прадзеды родныя браты ), вядомым гісторыкам, адным з самых заслужаных пачынальнікаў татарскага руху на беларускай зямлі. Як ведаем, тады старшынёю Рады згуртавання беларусаў свету " Бацькаўшчына " была выбрана Ганна Сурмач. Гэты факт вельмі ўсцешыў татараў, таму што ў яе асобе мелі раней і маюць зараз сардэчнага сябра і надзейнага памочніка.

Як ужо было адзначана, на Беларусі я ізноў апынуўся з выпадку 75-годдзя нараджэння С. Х. Александровіча. Беларуская навука ім ганарыцца, таму што творчы набытак татарскага літаратуразнаўцы па праву самы багаты і колькасцю, і глыбінёю роздумаў над пуцявінамі мастацкага слова ў Беларусі, ды тых усіх яго стваральнікаў, якія будавалі сувязі з такім жа словам суседніх народаў, у першую чаргу з польскім.

Татары ў беларускай культуры -- гэта багаты не раздзел. Мне ужо неяк не выпадае залішне выказвацца на вядомую тэму. Няхай тады прагучыць голас нетатарына, менавіта Эмануіла Іофе з " Народнай газеты " ад 31 мая 1995 года. Вось што ён піша :

-- Апошнім часам усё большая колькасць жыхароў Рэспублікі Беларусь, асабліва моладзі, пачала усведамляць, што нельга аб'ектыўна і якасна вывучыць гісторыю і культуру беларускага народа без ведання гісторыі і культуры беларускіх татараў.

Знамянальна тое, што Э. Іофе даў свайму артыкулу загаловак, узяты ад іншага аўтара, менавіта Аляксандра Бельскага, які наступна папярэдзіў свае разважанні аб Сцяпане Александровічу :

" Дай Бог, каб кожны беларус так моцна любіў Беларусь, як гэты татарын. Дай Бог ! "

Зразумела, такім чынам Э. Іофе абагульніў цэлую з'яву, змяшчаючую ў сабе ўклад татараў у культурную спадчыну беларускай нацыі.

Гэта была проза. А паэзія ? Калі я знаходзіўся у Мінску, дык наш славуты Якуб Якубоўскі, дарэчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, уручыў мне верш " Беларускія татары ", прысвечаны яму самім Рыгорам Барадуліным. Сталася гэта падчас незабыўнага вечара ў хаце Анны і Ібрагіма Канапацкіх, у якіх я затрымаўся. Я. Якубоўскі на гэтую першую нашу сустрэчу прывёз хатняга вырабу торт. Яго непраўдападобны смак -- таямніца рэцэптуры, якую зайздросна сцерагуць татары. Зусім мэтанакіравана ўвёў тут кулінарны момант, таму што ўвогуле татары надаюць спецыяльнае значэнне паасобным вырабам традыцыйнай кухні, маючых рытуальны характар, садзейнічаючым .... згоднаму сужыццю адзінаверцаў.

Дык вось у гэты памятны сапраўды сямейный вечар, прагучэлі натхнёныя словы Барадуліна, якія яшчэ больш моцна нас, прысутных, аб'ядналі :

**На Беларусь нашэсьце вашае**

Вітаю,
Мірныя татары !
Вы дбалі -
Будавалі, важылі,
Аблокаў пасьвілі атары.
Былі гароднікамі ўпартымі,
Кажушнікамі, макалямі,
Прэч гора адганялі жартамі,
Кулямі смутак затулялі.
Вы засланяліся правіцаю
Кайданьнікамі на этапах,
Вы мову зьбераглі крывіцкую
І ў сэрцах вашых,
І ў кітабах.
Пытаньне усім над вухам дыхае :
Каму зашкодзілі,
Скажэце,
Татарскія могілкі ціхія,
Маладзічковыя мячэці ?
Хапіла ж нашым мовам
Сьмеласьці,
Сышоўшыся, не разгубіцца
А ў мудрае паразумеласьці,
Як дзьве крыніцы,
Сьветла біцца,
На Шчары,
Нарачы,
На Сьвіцязі
Схаўрусіць хай
З салам алейкум,
Татары !
Множцеся й пладзіцеся,
Салам алейкум !

Мінск, 1 лютага 1994 г.

Завяршаючы артыкул, мне толькі застаецца нізка пакланіцца беларускаму народу, які ў далёкім мінулым прыняў татараў у сваю сям'ю і лічыць іх суродзічамі.

Мацей Канапацкі.

( Газета " Ніва " N 25, ад 23. 06. 1996 г. )

# РАСКОЛ

На пачатку 1881 г. членам асмолаўскай мусульманскай абшчыны Слуцкага павету Мінскай губерні, што дзейнічала пры мясцовай саборнай мячэці, давялося выбіраць новага імама. Справа была ў тым, што ранейшы яе духоўны кіраунік Якуб Якубоускі па прычыне старасці і кепскага здароўя адмовіўся ад выканання сваіх абавязкаў. Таму 10 сакавіка таго ж года на пасаду імама быў выбраны саракапяцігадовы Амурат Смольскі. Акт аб яго выбранні падпісала 80 чалавек, а ўсяго да гэтай абшчыны было прыпісана 160 вернікаў-мусульман з татарскіх ваколіц Асмолава, Арда і Іванава, а таксама мястэчак Клецк і Капыль. Гэты акт і іншыя неабходныя дакументы былі накіраваны у Таўрычаскае мусульманскае духоўнае праўленне. Пасля іх разгляду кіраўніцтва праўлення прыйшло да высновы, што Амурат Смольскі адпавядае той пасадзе, на якую ён выбраны. Аб гэтым быў дасланы спецыяльны ліст у Мінскае губернскае праўленне, дзе павінны былі канчаткова вырашыць пытанне аб зацвярджэнні яго імамам. У праўленне таксама паступіў рапарт ад слуцкага павятовага ісправуніка, у якім А. Смольскі характарызаваўся як прыстойны чалавек, не быўшы раней пад судом, лаяльны і законапаслухмяны ў адносінах да манарха і дзяржавы.

Здавалася, не засталося ніякіх перашкод на шляху зацвярджэння Амурата Смольскага імамам асмолаўскай абшчыны, калі б не раптам узнікшыя абставіны. У лістападзе 1881 г. да мясцовых улад, а таксама і ў Таўрычаскае духоўнае праўленне паступіла заява ад шляхціцаў-татар, жыхароу мястэчка Клецк, Абрагіма Абрамовіча, Аляксандра і Іосіфа Міськевічаў, Мацея Шагідзевіча, Аляксандра і Бякіра Якубоўскіх. У ёй сцвярджалася, што толькі меньшая частка вернікаў абшчыны падпісала акт аб выбранні імамам А. Смольскага. Акрамя таго, ён, згодна з іх думкай, наогул не дастойны быць духоунай асобай, паколькі з'яўляецца недобранадзейным і непрыстойным у маральным плане чалавекам, вядзе будучы жанатым блуднае жыццё. У сувязі з гэтым аўтары заявы прасілі не зацвярджаць А. Смольскага імамам. 12 сакавіка 1882 г. губернскае праўленне вырашыла накіраваць гэтую справу на дадатковы разгляд у Таўрычаскае мусульманскае духоўнае праўленне, улічваючы тое, што ў правілах аб выбарах імамаў не была выразна акрэслена неабходная колькасць выбаршчыкаў.

Адначасова ў тым жа лістападзе 1881 г. група мусульман з Клецка, сярод якіх былі ужо знаёмы нам Аляксандр Міськевіч, а таксама Сцяпан

Якубоускі, Іосіф Ясінскі і іншыя, падалі прашэнне аб стварэнні асобнай клецкай рэлігінай абшчыны, у склад якой увайшлі 6 вернікі з Клецка і Капыля. Пры гэтым яны паведамлялі, што з дазволу Мінскага губернскага праўлення ў Клецку ўжо пабудавана мячэць. Акрамя таго быў прадстаулены акт аб выбранні імамам у Клецку Мустафы Ждановіча з мэтай зацвярджэння яго на гэтай пасадзе.

Тым часам у Таўрычаскім мусульманскім духоўным праўленні была разгледжана справа А. Смольскага. У лісце, які быу накіраваны ў Мінскае губернскае праўленне ў маі 1882 г. адносна неабходнай колькасці выбаршчыкаў, адзначалася, што у выбарах павінны браць удзел не меней двух трацей членаў абшчыны мужчынскага полу. Прычым меліся на ўвазе толькі тыя, што з'яуляліся главамі сямей. Не маглі ўдзельнічаць у іх малодшыя члены сямей, якія не жылі асобна ад старэйшых. Што датычылася самога Амурата Смольскага, то вырашэнне пытання аб зацвярджэнні яго імамам заставалася за Мінскім губернскім праўленнем. У сувязі з гэтым 4 чэрвеня 1882 г. слуцкай паліцыі быў накіраваны загад правесці дазнанне па дадзенай справе.

У кастрычніку гэтага ж года ў губернскае праўленне паступіў рапарт ад слуцкай павятовай паліцыі, у якім гаварылася, што абсалютная большасць падпісаўшых акт аб выбранні імама з'яўлялася домаўладальнікамі і главамі сямействаў. Мясцовай паліцыяй была праведзена праверка інфармацыі аб быццам недобранадзейных і непрыстойных паводзінах А. Смольскага. Дзеля гэтага былі апытаны жыхары мястэчка Клецк як мусульманскага, так іўдзейскага і хрысціянскага веравызнанняў. Усе яны адзінадушна заявілі, што Смольскі з'яўляецца сумленным і прыстойным чалавекам, дастойным быць духоўным кіраунікам мясцовых мусульман. Адносна вышэйпамянёных абвінавачванняў супраць яго, была выказана думка, што яны інспіраваны тымі членамі мусульманскай абшчыны, якія імкнуліся стварыць у Клецку і Капылі асобную рэлігійную адзінку і выбраць свайго імама. Аб гэтым і быў складзены 16 ліпеня 1882 г. адпаведны пратакол, што быў накіраваны губернскім уладам. Абапіраючыся на гэтыя дадзеныя, Мінскае губернскае праўленне 19 лістапада 1882 г. нарэшце зацвердзіла Амурата Смольскага на пасадзе імама і даручыла мясцовым паліцэйскім уладам прывесці яго да прысягі. Але да таго часу А. Смольскі, як паведаміла 24 студзеня 1883 г. слуцкая павятовая паліцэйская управа, памёр. Замест яго асмолаўскім імамам быў абраны у 1883 г. Якуб Ясінскі.

У канцы 1883 г. Таўрычаскае духоўнае праўленне, улічваючы атрыманыя ім звесткі аб недастатковай колькасці вернікаў-мусульман у мястэчку Клецк і недахопе ў іх неабходных для ўтрымання імама і мячэці грашовых сродкаў, 10 лістапада г.г. прыйшло да высновы немэтазгоднасці

стварэння асобнай абшчыны ў гэтым мястэчку, аб чым і было паведамлена вернікам.

Тым не менш клецкія мусульмане працягвалі дамагацца ажыццяулення сваёй мэты. Яны звярнуліся са скаргай да мінскага губернатара аб тым, што паліцэйскія ўлады не дазваляюць Мустафе Ждановічу выконваць свае абавязкі імама, нягледзячы на тое, што ён абраны самімі вернікамі, а мячэць у Клецку пабудавана на іх уласныя сродкі у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Але губернскае праўленне сваім рашэннем ад 14 снежня 1883 г. пацвердзіла меркаванне Таўрычаскага духоўнага праўлення.

Клецкія мусульмане звярнуліся ў міністэрства ўнутраных спраў Расійскай дзяржавы. Па патрабаванню дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў МУС ад 24 лютага 1884 г. губернскае праўленне зноў вярнулася да разгляду гэтага пытання. 24 красавіка таго ж года было вырашана, што мясцовыя вернікі маюць на той момант дастаткова сродкаў на ўтрыманне мячэці і імама. Кіраўнік вышэйпамянёнага дэпартамента ў лісце ад 12 ліпеня 1884 г. да мінскага губернатара прапанаваў станоўчым чынам вырашыць пытанне аб стварэнні асобнай абшчыны у Клецку, матывуючы гэта неабходнасцю падтрымкі мясцовых мусульман у Заходнім краі. Губернскія ўлады палічылі магчымым у дадзеных абставінах утварэнне ў Клецку асобнай рэлігійнай адзінкі з санкцыі вярхоўнай улады. 27 верасня 1884 г. імператар Аляксандр III дазволіў адчыніць у гэтым мястэчку мячэць, што азначала, адпаведна, стварэнне асобнай рэлігійнай абшчыны. Такім чынам, мясцовыя мусульмане ўсё-ж такі дамагліся свайго.

**І. Канапацкі , А. Лашкевіч**

---

## НЕВЯДОМЫ ЛЁС ВАРШАЎСКАГА ІМАМА

У канцы студзеня 1941 г. мясцовымі органамі дзяржбяспекі быў арыштаваны настаўнік Клецкай няпоўнай сярэдняй школы Алі Варановіч. На той час гэта было звычайнай з'явай для грамадскага жыцця Беларусі, як і ўсяго Савецкага Саюза ў цэлым, хаця найбольш вялікая хваля масавых рэпрэсій прыйшлася на мінулыя 1936 - 1938 гг. Тым не меней і у наступныя гады ніхто не мог быць гарантаваны ад пільнай " цікавасці " да сваёй асобы з боку " органаў " і маючых адбыцца з-за гэтага наступстваў. Асабліва гэта датычылася насельніцтва тых рэгіёнаў, што былі ўключаны ў склад СССР у 1939 - 1940 гг. -- Заходняй Беларусі

і Заходняй Украіны, Прыбалтыкі, Бесарабіі і Паўночнай Букавіны. Савецкія ўлады вырашылі ачысціць гэтыя тэрыторыі ад так званых " сацыяльна небяспечных элементаў ". У Заходняй Беларусі да іх адносілі былых прадпрымальнікаў і заможных землеўладальнікаў, службоўцаў польскага дзяржаўнага апарата, вайскоўцаў і супрацоўнікаў сілавых структураў, палітычных дзеячоў міжваеннай Польшчы ( у іх лік нават часам траплялі польскія і беларускія камуністы ), духоўных асоб розных канфесій. Да апошніх належыў і Алі Варановіч, які у канцы 30-х гадоў займаў пасаду духоўнага кіраўніка ( імама ) мусульманскай абшчыны ў Варшаве.

Алі Самуілавіч ( Ізмаілавіч ) Варановіч нарадзіўся у 1902 г. ў мястэчку Ляхавічы Слуцкага павета Мінскай губерніі ў сям'і мясцовых шляхціцаў-татараў Самуіла ( Ізмаіла ) Варановіча і яго жонкі Аміні з роду Шынкевічаў. Большую частку свайго дзяцінства ён правёў разам з бацькамі ў мястэчку Радзівілішкі ( Ковенская губернія ). У 1915 г. ў час наступлення нямецкіх войскаў яны пераехалі на жыхарства ў Вязьму. Потым, у жніўні 1917 г. Варановічы накіраваліся ў Сімферопаль, дзе жылі іх сябры-татары – Захарый і Мустафа Мурзічы. Тут у Крыме Алі завяршыў сярэднюю адукацыю ў сімферопальскай гімназіі і некаторы час вучыўся на аграмамічным факультэце мясцовага універсітэта. Але пасля заключэння мірнага дагавору паміж Савецкай Расіяй і Польшчай ( 1921 г. ), у красавіку 1922 г. разам з маці і малодшым братам Мустафой ( бацька памёр у тым жа годзе ) вярнуўся ў родныя мясціны.

Пасля вяртання на радзіму яны аселі на жыхарства ў Вільні. Алі Варановіч стаў вольным слухачом Віленскага універсітэта. А ў 1926 г. ён становіцца студэнтам Львоўскага універсітэта Яна-Казіміра, які скончыў у 1932 г. з дыпломам магістра філасофіі ў галіне ўходазнаўчых навук. У 1928 - 1929 гг. праходзіў кароткатэрміновую вайсковую службу, па заканчэнні якой атрымаў званне падхаружжага рэзэрву артылерыі Войска Польскага. У 1933 - 1936 гг., атрымаўшы стыпендыю міністэрства веравызнанняў і народнай асветы, Варановіч працягваў вучобу ў сусветна вядомым мусульманскім універсітэце " Аль-Азхар " ( Каір ), дзе вывучаў тэалогію і гісторыю Іслама. Вярнуўшыся у Польшчу, ён у студзені 1937 г. быў абраны імамам варшаўскай мусульманскай рэлігійнай абшчыны. Гэтую пасаду ён займау да верасня 1939 г., калі ў сувязі з пачаткам вайны з Германіяй, ён выехаў разам з жонкай на яе радзіму ў Клецк. Там А. Варановіч жыў і працаваў да свайго арышту у 1941 г.

Алі Варановіч займаўся таксама і навукова-даследчай працай. Яшчэ ў перыяд вучобы ў " Аль-Азхары " ён разам з егіпцянінам Сеідам Хамаві падрыхтаваў і выдаў з дапамогай польскага пасольства ў Каіры ў 1936 г. кнігу " Іслам у Польшчы " на арабскай мове. У ёй распавядалася пра жыццё татарскага насельніцтва краіны, яго паходжанне і гісторыю, пры

гэтым пад Польшчай разумелася тэрыторыя усёй Рэчы Паспалітай да яе падзелаў у канцы васемнаццатага стагоддзя. Таксама ў Егіпце А. Барановічам былі падрыхтаваны два артыкулы : " Рэшткі мовы літоўскіх татараў " і " Кітаб літоўскіх татараў і яго змест ", якія ўбачылі свет у другім выданні " Рочнік татарскі " у 1935 г. Пазней, будучы ўжо варшаўскім імамам, ён рыхтаваў навуковую працу " Рэлігійная паэзія польскіх мусульманаў ", якая, на жаль, так і не была завершана.

Алі Варановіч у якасці кіраўніка мусульманскай абшчыны ў Варшаве падтрымліваў цесныя кантакты як з дзеячамі татарскага нацыянальнага руху ў Польшчы ( браты Альгерд і Леон Крычынскія і інш. ), так і з прадстаўнікамі эміграцкіх арганізацый паволжскіх і крымскіх татараў ( Аяз Ісхакі, Джафар Сеідамет і інш. ). Так, у 1937 - 1938 гг. ён прымаў удзел у мерапрыемствах з нагоды дваццацігадовых юбілеяў курултаяў казанскіх і крымскіх татараў.

Менавіта гэтыя сувязі і ўдзел у вышэйзгаданых і іншых падобнага роду акцыях былі пастаўлены Алі Варановічу ў віну савецкімі ўладамі пад час арышту ў студзені 1941 г., аб чым сведчаць матэрыялы следчай справы. На допыце ад 1 лютага 1941 г. яму было прад'яўлена наступнае абвінавачванне :

**Пытанне.** " Вам прад'яўляецца абвінавачванне па арт. 68 і 74 КК БССР, гэта значыць у тым, што вы праводзілі шпіёнска-дыверсійную працу супраць СССР на карысць замежных разведак. С 1936 па 1939 гг. служылі ў г. Варшаве мулой і былі членам вышэйшай калегіі татараў был. Польшчы, з'яўляліся членам арганізацыі " Ідэль-Урал ".

Прызнаеце вінаватым у прад'яуленым абвінавачванні ? "

**Адказ.** " У прад'яўленым мне абвінавачванні па арт. 68 і 74 КК БССР прызнаю толькі ў тым, што служыў са студзеня 1937 г. па жнівень 1939 г. мулой у г. Варшаве, а таксама з'яўляўся членам вышэйшай калегіі мусульманаў был. Польшчы. Шпіянажам я ніколі не займаўся ".

Потым, праўда, ён прызнаў сябе вінаватым у контррэвалюцыйнай дзейнасці. Гэта бачна, напрыклад, з матэрыялаў допыта ад 3. 03. 1941 г.

**Пытанне.** " Калі і дзе ўвайшлі ў склад контррэвалюцыйных мусульманскіх арганізацый ? "

**Адказ.** " У канцы 1937 г. ў горадзе Варшаве ".

**Пытанне.** " Кім былі ўцягнуты ? "

**Адказ.** " У склад контррэвалюцыйна-эміграцкіх мусульманскіх арганізацый увайшоў па прапанове кіраўнікоў дадзеных арганізацый : былого генеральнага сакратара Усходняга Варшаўскага інстытута *

---

* Усходні інстытут у Варшаве -- існаваўшая на той час навучальная і навукова-даследчая ўстанова ўсходазнаўчага профілю.

Альгерта Гуркі ; былога пракурора Вышэйшага суда Польшчы -- ён жа старшыня культурна-асветніцкага аб'яднання татараў у Польшчы і старшыня духоўнай управы мусульманаў горада Варшавы Альгерда Крычынскага ; віцэ-старшыні акружнога суда у Гдыні -- ён жа віцэ-старшыня культурна-асветніцкага аб'яднання татараў был. Польшчы і рэдактар " Рочніка татарскага ", г. зн. часопіса, які выходзіу адзін раз у гаду -- Лявона Крычынскага ; выкладчыка турэцкай мовы ва Усходнім Варшаўскім інстытуце доктара Абдулы Зігні і уцёкшага ў 1933 г. з СССР у Тэгеран, а потым у Польшчу Эдзіге Шынкевіча ( Э. Шынкевіч даводзіўся А. Варановічу дваюрадным братам -- І. К. , А. Л. ), які атрымаў заданне па правядзенню працы сярод татараў польскіх, накіраванай супраць Савецкага Саюза, яшчэ ў Турцыі ад Джафара Сеідамета, які ў 1918 годзе быу міністрам замежных спраў Крымскай буржуазнай рэспублікі. Потым эмігрыраваў у Турцыю. З'яўляецца кіраўніком контррэвалюцыйнай эміграцкай арганізацыі крымскіх татараў ".

На допыце ад 6 сакавіка таго ж году Алі Варановіч працягваў даваць паказанні аб сваёй дзейнасці :

**Пытанне.** " У склад якой контррэвалюцыйнай арганізацыі вы ўвайшлі і як яна называлася ? "

**Адказ.** " У канцы 1937 г. я ўвайшоў у склад дзвух контррэвалюцыйных эміграцкіх арганізацый -- арганізацыі крымскіх татарау і аргагізацыі казанскіх татараў, г. зн. " Ідэль-Урал ", мэты і задачы былі адны і тыя ж .... "

Аднак пры уважлівым вывучэнні матэрыялаў следчай справы можна ўбачыць, што ўся канкрэтная " контррэвалюцыйная " дзейнасць А. Варановіча зводзілася да ўдзелу ў рознага роду грамадскіх мерапрыемстваў ( урачыстыя сходы, вечары, прыёмы і г. д. ). Такім чынам, грамадская дзейнасць была прызнана раўназначнай падрыўной. І гэта нягледзячы нават на тое, што ён атрымаў савецкі пашпарт толькі ў 1940 г., а да восені 1939 г. з'яўляўся грамадзянінам Польскай дзяржавы. Таму яго дзейнасць ніяк немагчыма вытлумачыць як злачынную, нават калі кіравацца тагачасным савецкім заканадаўствам, паколькі Алі Варановіч на той час не з'яўляўся грамадзянінам СССР. На нашу думку, прычынай яго нага " прызнання " ў " контррэвалюцыйнай " дзейнасці з'яуляецца тое, што на яго, хутчэй за ўсё, падчас арышту быу аказаны як псіхалагічны, так і фізічны ўціск. Можна меркаваць, што былы варшаўскі імам па прычыне сваёй мінулай дзейнасці быў залічаны да так званых вышэйзгаданых " сацыяльна небяспечных элементаў ". Як раз у гэты час наркомам унутраных спраў Савецкага Саюзу Лаурэнціям Берыяй выдадзена дырэктыва аб чысткі зноў далучаных да СССР рэгіёнаў ад падобнага рода асобаў, аб чым ужо было сказана раней.
На вялікі жаль няма ніякай інфармацыі аб далейшым лёсе А. Варановіча

пасля таго, як вясною 1941 г. ён быў этапіраваны з баранавіцкай турмы ў Мінск у цэнтральную турму НКУС Беларусі. Яго сляды губляюцца ў віхуры ваеннага ліхалецця. Дакладна вядома толькі адно : дадому, да сям'і і сваякоў ён больш не вярнуўся. Застаецца толькі спадзявацца , што наша публікацыя хоць нейкім чынам зможа пасадзейнічаць у высвятленні яго нага лёсу. Больш падрабязная інфармацыя аб следчай справе Алі Барановіча будзе надрукавана ў наступным нумары " Байрама ".

І. Канапацкі , А. Лашкевіч.

---

## Інфармацыйны ліст

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры**
**Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур**
**Беларускі дзяржауны педагагічны універсітэт**
**Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследванняў**
**Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей**
**Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь**
**Беларускае згуртаванне татараў-мусульман " Аль-Кітаб "**

арганізуюць і праводзяць 27 - 28 сакавіка 1997 г. у Мінску 3-ю міжнародную навукова-практычную канферэнцыю па тэме : " Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі ", прысвечаную 600-годдзю татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоускай дзяржавы ( Вялікага Княства Літоускага ).

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў :

-- Гістарыяграфічныя і крыніцазнаўчыя ракурсы праблемы " Літоўскія ( беларускія ) татары ".
-- Гісторыя татарскіх паселішчаў на Беларусі.
-- Пытанні захавання помнікаў матэрыяльнай культуры беларускіх татар.
-- Актуальныя праблемы вывучэння, захавання і ўзбагачэння духоўнай культуры татарскага народа ў Беларусі.

Тэзісы дакладаў і паведамленняў аб'ёмам 1-4 старонкі машынапіснага тэксту дасылайце, калі ласка, у 2-х экзэмплярах да 1 сакавіка 1997 г. на адрас : 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 51, кв. 312, Канапацкаму Ібрагіму Барысавічу. Да тэзісау трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Тэлефоны для даведак у Мінску : 261-84-93 ; 263-37-89.

Аргкамітэт

# РОДНЫ БРАТ СЮМБІКЕ І МАДЗІНЫ -- РАШЫД АБЯЗАЎ

Калі збіраюцца менскія татары на якое-небудзь мерапрыемства, то заўсёды могуць убачыць і пагаварыць з вельмі высакароднымі, казанскімі татаркамі -- Сюмбіке і Мадзінай. Некалькі гадоў таму іх напаткала вялікае гора -- памёр раптоўна іх брат Рашыд, які жыў і працаваў у Санкт-Пецярбургу. Прыгнечаныя горам жанчыны казалі : калі б ён не памёр так рана, абавязкова пазнаёміўся б з менскімі татарамі. Але не суджана было адбыцца гэтай сустрэчы. Пра таленавітага спецыяліста-інжынера і вельмі здольнага спартсмена пісалі у газетах, яго ведалі ўсе, хто займауся спартыўным плаваннем. Вось што напісаў у свой час для газеты М. Слаўскі :

" Самае прыемнае месца у Ташкенце -- раён Камсамольскага возера. Калі нясцерпна пячэ сонейка і паветра навокал здаецца распаленым, ад воднага люстэрка павявае слабы ветрык.

Пасля заняткаў у школе Рашыд Абязаў і яго сябры ўвесь вольны час бавілі на возеры : плавалі навыперадкі, гулялі ў мяч, скакалі з вышкі ....

Асабліва любіў Рашыд вышку. Ніхто з аднагодкаў не мог так прыгожа праляцець " ластаўкай ", як Рашыд.

Было і іншае захапленне ў хлопчыка. Вечарамі ён майстраваў радыёпрыёмнікі. 16-гадовы Рашыд запісауся ў секцыю плавання " Юнага дынамаўца ". Трэнеры добра ведалі шустрага падлетка, які на вадзе адчуваў сябе больш вольна, чым на сушы. Ён без цяжкасці апярэджваў таварышаў. Да гэтага часу гэта была адзіная мерка яго майстэрства. Цяпер за юным плаўцом стаў назіраць інструктар з хранометрам у руцэ. І вось, крыху хвалюючыся, як гэта бывае ў кожнага пачаткоўца-спартсмена, Рашыд упершыню выходзіць на старт. Юнак плыве разам з дарослымі на 100 метраў вольным стылем. Да фінішу ён прыходзіць другім. Другое месца у Ташкенце ! Пазней , праз два месяцы малады плывец пабіў два рэкорды Узбекістана.

Вясной 1945 года Электратэхнічны інстытут імя Ульянава (Леніна) вярнуўся у Ленінград з эвакуацыі. Прыехаў у горад Леніна і Р. Абязаў, студэнт 2-га курса інстытута.

Аднойчы Абязау прыйшоў у басейн на вуліцы Праўды. Трэнеры прапанавалі юнаку аднавіць заняткі. Ён хутка ўдасканальваўся, плаваючы кросам, і неўзабаве быў залічаны ў зборную каманду Ленінграда.

Неяк Рашыд паспрабаваў плыць батэрфляем. Гэта адносна рэдкі стыль. Плывец рухаецца, выкідваючы адначасова абедзве рукі -- здаецца, што над вадой пырхае матылёк. Фенаменальных вынікаў дасягнулі ў плаванні гэтым стылем савецкія спартсмены Леанід Мяшкоў і Сямён Бойчанка. Ім належаць сусветныя рэкорды на ўсіх дыстанцыях.

Праз некалькі месяцаў у Кіеве разыгрываўся прыз " Камсамольскай праўды ". Суддзя выклікаў на старт плыўцоў. На тумбачкі ўзышлі Мяшкоў і Бойчанка, а побач -- ленінградзец Абязаў. Рэкардсмены здзіўлена паглядзелі на юнака. У заплывах на 100 і 200 метраў Абязаў заняў трэцяе месца пасля Мяшкова і Бойчанкі. Трэці плывец краіны ! З той пары ён не раз сустракаўся на воднай дарожцы з сусветнымі рэкардсменамі і заўсёды фінішыраваў трэцім. Нарэшце лепшыя плыўцы краіны сабраліся ў Днепрапятроўску. Над воднай станцыяй залунаў флаг першынства краіны. З нецярпеннем чакаў гэтае спаборніцтва Абязаў. У першы ж дзень у " заплыве мацнейшых " на 100 метраў брасам ён выканаў норму майстра -- 1 хвіліна 13 секунд. Але ўсё ж на фінішы ён быў толькі трэцім, пасля Бойчанкі і Мяшкова. Затым старт на 200 метраў. І зноў выдатны вынік -- 2 хвіліны 47 секунд, і зноў толькі трэцяе месца.

У апошні дзень спаборніцтваў разыгрывалася першынство на дыстанцыю 400 метраў стылем брас. Ніколі яшчэ Абязаў не адчуваў сябе так хораша. Але ён вельмі хваляваўся, уздымаючыся на стартавую тумбачку, і яшчэ да стрэлу старцёра страціў раўнавагу і пачаў валіцца ў ваду. Рашыд думаў, што старт не адбудзецца з прычыны яго памылкі, але калі вынырнуў з вады, то убачыў, што Бойчанка і Мяшкоў плывуць побач.

Уперад ! ... Даўжыня басейна -- 50 метрау. 8 разоу трэба праплысці гэты адрэзак ...

Рашыд зрабіў першы паварот раней рэкардсменаў. Упершыню раней ! Але заспакойвацца рана. Вось пройдзены другі адрэзак, затым трэці. Адлегласць між ім і другімі плыўцамі ўсё павялічвалася ...

На трыбунах стаяў гул. Тысячы гледачоў пляскалі пераможцу рэкардсменаў. Рашыд узышоу на п'едэстал гонару.

-- " Чэмпіён краіны -- дыпламант Ленінградскага электратэхнічнага інстытута Рашыд Абязаў ", -- абвясціў дыктар. --" Яго вынік -- 5 хвілін, 59,1 секунды". -- " Вынік Бойчанкі -- 6 хвілін 11 секунд, Мяшкова -- 6 хвілін 11,1 секунд ".

# ШТО ТАКОЕ МЕНТАЛІТЭТ, МЕНТАЛЬНАСЦЬ ?

Кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, аўтар прац па праблемах міжнацыянальных адносін на Беларусі, ментальнасці і нацыянальнага характару беларусаў -- Эдуард Дубянецкі згадзіўся даць кароткі адказ на просьбу чытачоў " Байрама ", растлумачыць, як разумець гэтае паняцце, бо яго часта можна пачуць у размовах, па радыё. И вось што ён для нас напісаў :

Менталітэт, ментальнасць -- слова іншаземнага паходжання ( франц. mentalite ад лац. mentalis -- разумовы ) -- гэта своеасаблівы тып, спосаб мыслення, светабачанне асобнага чалавека альбо якой-небудзь супольнасці. Адлюстроўваецца ў спецыфічных уяўленнях людзей аб прасторы і часе, прыродным і сацыяльным асяроддзі, меркаваннях аб саміх сябе і прадстаўніках іншых груп насельніцтва. Выдзяляюцца такія разнавіднасці менталітэту, як першабытны, антычны, сярэдневяковы, еўрапейскі, азіяцкі, дзіцячы, жаночы, мужчынскі, рабскі, рэвалюцыйны, таталітарны, бюракратычны, сялянскі, інтэлігенцкі, рэлігійны і г. д.

Менталітэт не застаецца заўсёды аднолькавым, нязменным, а з цягам часу набывае новыя адметныя рысы, хаця звычайна ментальнасць мяняецца больш марудна ( т. зв. інерцыя ментальнасці ), чым эканамічнае і палітычнае жыццё грамадства. Ментальнасць, уласцівая пераважнай большасці людзей той ці іншай нацыянальнай ( этнічнай ) супольнасці, звычайна называецца нацыянальнай. Таму можна асобна выдзеліць, напрыклад, французскую, яўрэйскую, польскую, рускую, украінскую, беларускую, татарскую і іншыя ментальнасці.

Менталітэт беларусаў фарміраваўся вельмі працяглы гістарычны час і набываў свае тыповыя рысы у адмысловых абставінах грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўна-культурнага жыцця. У старажытны перыяд для менталітэту жыхароў беларускіх зямель былі ўласцівы язычніцкі політэізм ( вера ў адначасовае існаванне многіх багоў ), пантэізм ( абагаўленне зямлі, крыніц, нябесных свяціл, дрэў, камянёў і іншых прыродных з'яў ), анімізм ( перакананне ў рэальным існаванні душы, злых і добрых духаў ), вербальная магія ( вера ў цудадзейную сілу асобных слоў, выразаў ), адчуванне непарыўнай еднасці паміж чалавекам і ўсёй навакольнай прасторай, цьмяныя ўяўленні аб цячэнні часу, разнастайныя прымхі і забабоны, культы, містычныя ўстаноўкі і г. д.

На працягу многіх наступных стагоддзяў ментальнасць беларусаў у некаторых рысах заставалася па сутнасці архаічнай, але пасля прыняцця хрысціянства ў пачатку 2 тыс. н. э. адбывалася своеасаблівае перапляценне двух тыпаў светабачання -- старога язычніцкага і новага хрысціянскага, для якога былі характэрны манатэізм ( перакананне аб існаванні адзінага Бога ), уяўленні аб стварэнні Сусвету і чалавека па волі Божай, аб маральных цнотах і грахах, неабходнасці для выратавання душы выконваць спецыяльныя абрады, ушаноўваць хрысціянскіх святых, адзначаць рэлігійныя святы і г. д.

Ва ўсе часы беларусам была ўласціва моцная прывязанасць да сваёй зямлі, свайго роднага кутка, пастаяннае імкненне гарманічна прыстасаваць працу і адпачынак да пэўных прыродна-сезонных цыклаў, пораў года ( т. зв. каляндарны модус, або накірунак ментальнасці ). Аб гэтым пераканаўча сведчыць беларускі народны каляндар з незвычайным багаццем святаў, прысвяткаў і адпаведных ім песень, танцаў, абрадаў, разнастайных прыкмет і павер'яў. Такі традыцыйны беларускі менталітэт у сваіх асноўных рысах доўгі час захоўваўся без істотных змяненняў, аднак за дзесяцігоддзі існавання савецкай таталітарнай сістэмы ён быў у значнай ступені дэфармаваны, скажоны. У выніку ў многіх людзей паступова сфарміравалася спецыфічная " саветызаваная " ментальнасць, для якой былі звычайна характэрны ваяўнічы атэізм, вульгарна-матэрыялістычныя ідэі, схільнасць да ўсялякіх ксенафобій ( г. зн. пачуццё недаверу да ўсяго " чужога ", непадобнага, непрыхільнасці да іншадумства і да т. п. ), кансерватызм, нежаданне радыкальных пераўтварэнняў, дэградацыя нацыянальнай самасвядомасці, страта свайго ўласнага, унікальнага погляду на прыроднае, сацыяльнае акружэнне і да т. п.

У сучасны перыяд пад уплывам даволі істотных грамадскіх змен менталітэт многіх грамадзян Беларусі паступова вызбаўляецца ад былой празмернай заідэалагізаванасці, пакорлівасці афіцыйным уладам, навязанага бязбожніцтва, надзвычайнай кансерватыўнасці. Адначасова з гэтым у ментальнасці беларусаў умацоўваюцца ідэі аб неабходнасці незалежнасці краіны, сапраўды дэмакратычнага грамадства, свабоднага самасцвярджэння асобы, паглыбляецца нацыянальная самасвядомасць. Аднак, як сведчыць гістарычны вопыт, падобныя пазітыўныя перамены ў светабачанні людзей ва ўмовах татальнага крызісу грамадства адбываюцца вельмі марудна, неадназначна і нярэдка маюць тэндэнцыю да рэгрэсіўнага развіцця, своеасаблівага " вяртання " да менталітэту мінулых гадоў.

**Эдуард Дубянецкі.**

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ
## энцыклапедычнага даведніка для беларускіх татараў

**АКМЯНСКАЯ БІТВА 1331 ГОДА,** бітва літоўска-беларускіх войск з рыцарамі Тэўтонскага ордэна на р. Акмяна ( поўнач Літвы ). Уварваўшыся на тэрыторыю Жэмайціі ( Жмудзі ) , нямецкія рыцары рабавалі і знішчалі насельніцтва. Жмудзіны папрасілі ў Вялікага Княства Літоускага дапамогі. Вялікі князь Гедымін сабраў войска з літоўскіх, полацкіх і навагародскіх дружын і даў бой тэутонскім рыцарам на чале з Генрыхам фон Плокам. Дзякуючы добраму размяшчэнню войск ( наперадзе татарская конніца, у сярэдзіне літоўскія воіны, на флангах і ў рэзерве беларускія дружыны ) Гедымін разграміў ворагаў і прымусіў іх уцячы . Мясцовае насельніцтва, гвалтоўна ўключанае ў тэўтонскае войска, у час баёў перайшло на бок Гедыміна. Акмянская бітва прыпыніла нямецкую агрэсію на землі Вялікага Княства Літоўскага .

**Энцыклапедыя гісторыі Беларусі, т. 1, 1993 .**

**АЛБАНСКАЯ МОВА,** самастойная група індаеўрапейскіх моў . Пашырана ў Албаніі ( дзяржаўная мова ), а таксама ў Сербіі ( аўтаномны край Косава ), Італіі, Грэцыі, Украіне ( Адэская і Запарожская вобл. ). Мяркуюць, што албанская мова паходзіць ад адной са старажытных палеабалканскіх моў, генетычна найбольш блізкая да ілірыйскай, месапскай і фракійскай моў . Мае 2 дыялекты : гегскі ( паўночны ) і тоскскі ( паўднёвы ), на аснове якіх у 19 ст. склалася сучасная літаратурная мова ( у 2 варыянтах ). У фанетычнай сістэме 7 галосных і 29 зычных ; націск фіксаваны пераважна на перадапошнім складзе . Граматычны лад флектыўна-сінтэтычны з рысамі аналітызму . Першыя пісьмовыя помнікі датуюцца 15 ст. Адзіны алфавіт на лацінскай аснове створаны у 1908 г.

**Беларуская Энцыклапедыя, т. 1, 1996 .**

**АЛБАНЦЫ**, ш к і п т а р ( саманазва, адзіночны лік, ад " шчып " -- " вымаўляць выразна " ), у Італіі -- а р б р э ш ы, народ, асноўнае насельніцтва Албаніі . Колькасць у Албаніі 3 млн. чалавек . Жывуць таксама у Сербіі ( акруга Косава ), Македоніі, Італіі ( паўднёвыя вобласці і Сіцылія -- нашчадкі перасяленцаў ў 15-16 ст.ст. ). Невялікая колькасць албанцаў жыве ў Турцыі, Балгарыі, Румыніі, Украіне, ЗША . Агульная колькасць албанцаў -- 5,19 млн. чалавек . Належаць да дзінарскага тыпу балкана-каўказскай вялікай еўрапеоіднай расы . Гавораць на албанскай мове .

Албанцы -- нашчадкі найболын старажытнага насельніцтва Балканскага паўвострава . Некаторыя вучоныя ( у тым ліку албанскія ) лічаць асноўным этнічным ядром албанцаў плямёны ілірыйцаў, іншыя -- фракійцаў . На культуру і мову албанцаў наклалі адбітак рымская, славянская каланізацыя, Візантыя . З 11 ст. адбывалася паступовае зліццё плямёнаў і утварэнне тэрытарыяльнай міжплемянной агульнасці. Этнонім албанцаў " арберры " стаў пашырацца на ўсіх жыхароў Албаніі. У 15 ст. пачала складацца сацыяльна-эканамічная і палітычная агульнасць .

Панаванне Асманскай імперыі ( канец 15 ст. -- 1912 г. ) выклікала інтэнсіўную эміграцыю албанцаў . У 17-18 ст. большасць албанцаў прынялі Іслам . У горных раёнах, якія захавалі адносную самастойнасць і элементы родаплемянных адносін, насельніцтва працягвала прытрымлівацца праваслаўя ( на поўдні ) і каталіцтва ( на поўначы ). У 2-й палавіне 18 -- пачатку 19 ст.ст. сфарміраваліся дзьве галоўныя групы албанцаў : тоскі на поўдні і гегі на поуначы .

Традыцыйнае жыллё албанцаў у гарах -- міжземнаморскага тыпу ( унізе хлеў, зверху -- жылыя памяшканні ), пад стромкімі дахамі ( па прычыне глыбокіх снягоў ) з дранкі ; у далінах -- невялікія хаціны з камення, глінабітныя, аплеценыя і абтынкаваныя ці дашчатыя ; у гарадах -- двухпавярховыя дамы, размешчаныя ( паводле мусульманскага звычаю ) у глыбіні панадворкаў . Для паўночнай Албаніі ў мінулым характэрны каменныя дамы ( кула ). У сучаснай вёсцы пераважаюць двухпавярховыя дамы ( абодва паверхі жылыя ) з лоджыямі, цаглявыя, абтынкаваныя, пад 4-скатнымі чарапічнымі або шыфернымі дахамі . Для інтэр'ера характэрна вялікая колькасць дываноў, драпіровак .

Традыцыйнае адзенне жывёлаводаў -- з шарсцяных тканін, земляробаў -- з шарсцяных, шаўковых, ільняных, баваўняных . Пераважаюць колеры -- белы, чорны, чырвоны . Упрыгожанні -- вышыўка, аплікацыя, карункі, дэкаратыўны шнур . Зыходныя элементы

мужчынскага і жаночага традыцыйнага касцюма -- белая рубашка прамога пакрою з доўгімі рукавамі і верхняя плечавая распашная вопратка без засцёжкі . Мужчынская " фустанэла " ( падол рубахі ператварыўся у белую спадніčку, наплечнае адзенне -- у камізэльку ) была амаль усюды пашырана у 18 ст., да 20 ст. зберaглася на поўдні . Тып " тырчы "( вузкія белыя порткі, кароткая рубаха, камізэлька, куртка ), пашырыліся ў 19 ст. ( акрамя поўдня ), зберагліся ў горнай зоне . Мужчынскі галаўны ўбор -- белая лямцавая ( радзей робленая ) шапачка, напоўсферычная ці з плоскім верхам . У жаночым касцюме абавязковы фартух ( шарсцяны, яркіх афарбовак ), багацце вышывак і срэбных упрыгожанняў ; галауны ўбор рушніковы . Абутак -- з цэлых кавалкаў сырамятнай скуры . Пад уплывам турэцкай культуры адзенне албанцаў дапоўнілася шальварамі ( шараварамі ), залаташвейнымі ўпрыгожаннямі .

Аснова традыцыйнай кухні -- кукурузны і пшанічны хлеб, у земляробаў пераважала гароднiна, у жывёлаводаў -- малочныя стравы .

Традыцыйныя віды прыкладнога мастацтва : апрацоўка серабра ( ліццё, філігрань ), разьба па каменю і дрэве, выраб дыванoў ( паліхромны геаметрычны арнамент ). З 17-18 ст.ст. вядомы паліхромны роспіс ( пераважаюць раслінныя матывы ) будынкаў . Зберагаюцца песенны, танцавальны ( хараводныя танцы ) фальклор, эпічныя сказанні.

Ю. В. Іванова.

АЛОЎНІКАУ Уладзімір Уладзіміравіч ( 16. 1. 1919, Бабруйск -- 31. 7. 1996 ), беларускі кампазітар і грамадскі дзеяч . Народны артыст Беларусі ( 1970 г. ). Прафесар ( 1980 г. ). Скончыу Беларускую кансерваторыю ( 1941, класы кампазіцыі В. Залатарова і фартэпіяна М. Бергера ), у 1947 - 94 педагог у ёй, у 1962 - 82 рэктар . Аўтар сімфанічнай, камерна-інструментальнай і вакальнай музыкі . Жыццесцвярджальнасцю і лірычнай пранікнёнасцю вызначаюцца шырока вядомыя яго песні : " Радзіма мая дарагая ", " Лясная песня ", " Песня пра Брэсцкую крэпасць ", " Песня аб Мінску ", " Недзе ў пасёлку " і інш. Найбольш значнымі з'яуляюцца праграмныя сімфанічныя творы : паэмы " Партызанская быль " ( 1952 ), " Нарач " ( 1954 ), сюіта " Песні міру " ( 1958 ) ; araторыя " Партызанскія песні " ( 1994 ). У. У. Алоунікаў быу членам КПСС з 1945, членам ЦК КПБ у 1966 - 1976, дэпутатам Вярхоунага Савета БССР у 1963 - 1980 .

І. І. Зубрыч.

АЛЫЧА, сліва рагалістая ( Prunus divaricata ), куст або дрэва сямейства ружакветных. Паводле слоўніка Шыпавай слова алыча цюркскага паходжання. Вышыня расліны да 8 м. Лісце эліпсападобнае, зверху цёмна-зялёнае, знізу святлейшае, апушанае. Кветкі белыя, адзінкавыя. Плады круглаватыя, рознай афарбоукі ( ад светла-жоутых да цёмна-чырвоных ). Ураджай да 40-50 кг з дрэва. У пладах 4 - 9 % цукру, 1,2 - 3,9 % кіслот, пекцінавыя рэчывы, вітамін С і карацін. Дзякуючы добраму спалучэнню цукроў, кіслаты, пекціну і іншых рэчываў, плады алычы -- каштоўны прадукт для пераапрацоукі і папулярны сырод насельніцтва. Расце на Каўказе, у гарах Цянь-Шаня, Капетдага, у Іране, Малой Азіі, на Балканскім паўвостраве. На Беларусі алыча інтрадукавана у сярэдзіне 19 ст. з Паўночнага Каўказа і пашырылася на ўсёй тэрыторыі ( культывуецца ў садах, парках, у ахоўных пасадках ). Шляхам доўгага размнажэння насеннем алыча добра прыстасавалася да мясцовых умоў і па зімаўстойлівасці не саступае дамашняй сліве, але менш патрабавальная да ўмоў вырошчвання і больш прыстасавана да малаўрадлівых глеб.

З розных даведнікаў.

АСТРАХАНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ, на поўдні Еўрапейскай часткі Расійскай Федэрацыі. На паўночным усходзе і ўсходзе мяжуе з Казахстанам, на поўдні абмываецца Каспійскім морам. Займае частку зямель Астраханскага ханства. Плошча 44,1 тыс. кв. кіламетраў. Насельніцтва 998 тыс. чалавек ( 1992 ); у 1989 г. ў вобласці жыло 71,7 тыс. татар. Гарадское насельніцтва складае 70 %. Цэнтр -- Астрахань. Найбольшыя гарады : Ахтубінск, Харабалі, Алтанжар.

Вобласць у межах Прыкаспійскай нізіны. Паверхня раўнінная ( большая частка ніжэй узроуню сусветнага акіяна, ад -2,7 м на поунячы да -27,5 м на поўдні. Характэрны ўзгоркавыя падняцці. Найвышэйшы пункт -- узгорак Вялікае Багдо, вышыня 149 м над узроўнем акіяна. Карысныя выкапні : кухонная соль, гіпс, нафта, газ, бішафіт. Клімат рэзка кантынентальны, засушлівы. Сярэдняя тэмпература студзеня ад -10°С на поўначы да -6°С на поўдні, ліпеня каля 25°С. Ападкаў каля 200 мм за год. Галоўная рака Волга ( з Ахтубай ), падзяляецца на мноства рукавоў, якія каля вусця ўтвараюць складаную дэльту. Шмат прэсных ( ільмені ) і мінеральных азёр ; самае вялікае возера ў вобласці -- Баскунчак ( 105 кв. км ). У раслінным

покрыве пераважаюць злакі ( кавыль, ціпчак, жытнік ), палын і салянкі паўпустынь на светла-каштанавых саланцаватых і бурых глебах . На Волга-Ахтубінскай пойме і ў дэльце Волгі -- пойменныя лясы, лугавая расліннасць на алювіяльных глебах ; трапляюцца лотас ( каспійская ружа ), чылім ( вадзяны арэх ), трыснёг і чарот . У вобласці Астраханскі запаведнік ( абвешчаны у 1919 г., у дэльце Волгі, плошча 64 тыс. га ).

Асноўная галіны прамысловасці : лёгкая ( трыкатажная, швейная, гарбарна-абутковая, футравая ), харчовая ( рыбная, агароднінa-кансервавая, мясная, саляная ), машынабудаванне і металаапрацоўка ( суднабудаванне і суднарамонт ). Развіты дрэваапрацоўчая, цэлюлозна-папяровая, нафтагаза здабыўная, хімічная і іншая прамысловасць ; вытворчасць будматэрыялаў . Пасевы збожжавых, агародніны, садавіны, бахчавых ; асноўныя культуры -- рыс, памідоры, кавуны ( на арашальных землях ). Мяса-воўнавая авечкагадоўля і мяса-малочная жывёлагадоўля . Развіты рачны і марскі транспарт . Порт -- Астрахань . Чыгуначны і аўтамабільны транспарт .

**Беларуская энцыклапедыя, т. 2, 1996.**

**АСТРАХАНСКАЕ ХАНСТВА**, татарская феадальная дзяржава са сталіцай у Астрахані . Узнікла ў выніку распаду Залатой Арды . У 14 ст. Гаджы Чэркес, эмір Залатой Арды, захапіў Астрахань і ператварыў яе ў самастойнае ўладанне ; каля 1459-60 гг. яно канчаткова адасобілася . Першым правіцелем Астраханскага ханства быў Махмуд, брат хана Ахмата . Прыблізныя межы Астраханскага ханства : на усходзе з Нагайскай ардой -- па р. Бузане, на поўдні яго тэрыторыя дасягала Церака, на захадзе -- да Кубані і Дона, на поўначы -- да Сарая. Насельніцтва складалася з цюркамоўных плямён . Заселенасць ханства была слабай . Асноўны занятак насельніцтва -- качавая жывёлагадоўля ; значную ролю адыгравалі паляўніцтва і рыбалоўства . Паблізу Астрахані здабывалі соль . Земляробства было нязначным, толькі на рацэ Бузан ( у дэльце Волгі ). Праз Астрахань ішоў транзітны гандаль тканінамі ( у тым ліку шоўкам ) з усходам, футрам і скурамі, вырабамі з Казані і рускіх зямель, і іншых зямель . У горадзе гандлявалі рабамі з Крыма, Казані і Нагайскай арды . Улусныя " чорныя людзі " знаходзіліся ў залежнасці ад свецкіх ( ханы, султаны, агланы, бекі і мурзы ) і духоўных ( сейіды і муллы ) феадалаў, якія іх жорстка эксплуатавалі . Насельніцтва Астраханскага ханства ад захопаў нагайцамі зямельных угоддзяў і промыслаў . Разам з феадальнымі адносінамі былі перажыткі дамашняга рабства . Главой Астраханскага ханства быў хан, аднак яго

ўлада была абмежавана феадаламі, якія мелі права вясці знешнюю палітыку . Важную ролю ў палітычным жыцці Астрахаяскага ханства адыгрываў калга -- галоўны начальнік арміі і астраханскай крэпасці, адзін з царэвічаў, абвешчаны ханам . " Чорныя людзі " плацілі ясак хану. Знешняя палітыка Астраханскага ханства амаль заўсёды знаходзілася ў залежнасці спачатку ад Вялікай Арды, а пасля яе разгрому -- ад нагайцаў і Крымскага ханства, якое імкнулася яго падпарадкаваць . У 16 ст. з мэтай супрацьдзеяння гэтым імкненням, Астраханскае ханства паступова зблізілася з Рускай дзяржавай і ў 1533 г. заключыла з ім саюзную дамову . У гэтых умовах у Астраханскім ханстве ўтварылася група прыхільнікаў Масквы . У 1554 г., пасля заваявання Казані ( 1552 ), рускі ўрад, зацікаўлены ў атрыманні выхаду да Каспійскага мора і абароне ад крымска-турэцкай экспансіі, паслаў войска на чале з князем Ю. І. Шэмякіным-Пронскім, якое выгнала з Астрахані стаўленіка Крыма хана Ямнурчэя і ўзвяло на яго месца стаўленіка хана Нагайскай арды Ісмаіла Дэрвіш-Алі ў якасці васала Івана IV . У 1556 г., у сувязі са спробай Дэрвіш-Алі выйсці з падпарадкавання Маскве, рускае войска зноў здзейсніла паход і канчаткова далучыла Астраханскае ханства да Расіі .

**Советская Историческая Энциклопедия, т. 1, 1961.**

<u>АСТРАХАНЬ</u>, горад у Расійскай Федэрацыі, цэнтр Астраханскай вобласці . Размешчаны ў дэльце р. Волга . 512 тыс. жыхароў . Чыгуначны вузел . Рачны і марскі порт на Каспійскім моры, аэрапорт . Харчовая ( у тым ліку рыбная ), машынабудаўнічая, металаапрацоўчая прамысловасць ( у тым ліку суднабудаванне і суднарамонт ), лёгкая, а таксама дрэваапрацоўчая і цэлюлозна-папяровая прамысловасць . 5 ВНУ, у тым ліку кансерваторыя . Драматычны тэатр, тэатр юнага гледача . Краязнаўчы музей . Дом-музей Ульянавых, дом-музей С. М. Кірава . Карцінная галерэя .

Першыя звесткі пра Астрахань адносяцца да 13 ст., калі сярод татарскіх пасяленняў упамінаецца тарханная вёска Аштархан ( Аджытархан ), якая знаходзілася на правым беразе Волгі, за 12 км ад сучаснай Астрахані . Знаходзячыся на перакрыжаванні караванных і водных шляхоў, Астрахань хуткаператварылася з вёскі ў буйны гандлёвы горад Сярэднявечча . Горад быў разбураны ў 1395 г. ( Цімур ) і у 1547 г. ( крымскі хан Сагіб Гірэй I ), але зноў адраджаўся . У 1459 - 60 гг. становіцца рэзідэнцыяй ханаў Астраханскага ханства, якое існавала да 1556 г.

Аснова сучаснай Астрахані пакладзена пабудовай у 1558 г. новай крэпасці на высокім ( Заечым, або Доўгім ) бугры, які амываецца Волгай і яе рукавамі . Далучэнне Астрахані да Расіі выклікала супраціўленне Турцыі, супроць Астрахані быў здзейснены ( 1569 г. ) вялікі, але няўдалы паход крымска-турэцкага войска . Каля 1589 г. было завершана ўзвядзенне мураванага крамля з 8 вежамі , у 30-х гг. 17 ст. пабудаваны " белы орад " -- гарадская агароджа з каменя . Астрахань ператварылася ў адну з асноўных памежных крэпасцей Рускай дзяржавы, якая ахоўвала вусце Волгі і плаванне па Каспійскім моры . Астрахань была адным з ачагоў антыфеадальнага паўстання, якое ўзначаліў Сцяпан Разін ( у 1670 - 71 гг. горад 17 месяцаў упраўляўся казачымі атаманамі ). У пачатку 18 ст. ў горадзе было Астраханскае паўстанне 1705 - 06 гг. -- антыфеадальны рух стральцоў, салдат, пасадскага і работнага люду . На задушэнне гэтага паўстання было кінута 20-тысячнае войска пад камандаваннем фельдмаршала Б. П. Шараметцева . 13 сакавіка 1706 г. царскае войска штурмам авалодала горадам, сотні ўдзельнікаў паўстання былі павешаны, сотні сасланы ў Сібір . У 1-й чвэрці 18 ст. ў Астрахані ствараецца ваенны флот, адміралцейства і порт . З Астрахані быў здзейснены Персідскі паход 1722 - 23 гг. Пятра І . Са стварэннем Астраханскай губерні ( 1717 г. ) Астрахань становіцца губернскім горадам ; з 1785 г. -- абласным горадам Каўказскага намесніцтва, з 1802 г. -- зноў губернскім горадам . У 2-й палавіне 13 ст. ў Астрахані заснаваны першыя станіцы Астраханскага казачага войска і фарміруецца ўпраўленне Астраханскага казацтва .

У 16 - 19 ст.ст. Астрахань была галоўным цэнтрам гандлю з Азіяй ; у 70-х гг. 19 ст. ў сувязі з развіццём нафтапромыслаў у Баку Астрахань становіцца важным нафтарынкам . Хутка расце шматнацыянальнае насельніцтва горада ( значная частка яго -- мусульмане ). У 1800 г. ў горадзе жыло 25 тыс. жыхароў, у 1861 г. -- 45 тыс., у 1897 г. -- 113 тыс. жыхароў, у 1909 г. -- 137 тыс., у 1939 г. -- 254 тыс. жыхароў .

7 лютага 1918 г. у Астрахані ўстаноўлена савецкая ўлада . У гады грамадзянскай вайны ( 1918 - 20 гг. ) Астрахань пастаянна знаходзілася ў акружэнні белагвардзейскіх войск, але ні разу не была захоплена імі.

Помнікі даўніны : крэмль ( 2-я палавіна 16 ст. ), пяціглавы Успенскі сабор ( 1700 -- 10 гг. ).

Советская Историческая Энциклопедия, т. 1, 1961.

АШШУАРА, 26-я сура з Кур'ана. Складаецца з 228 аятаў. Назва ад слова а ш ш у р а з 225 аята, перакладаецца як слова п а э т ы. Сура належыць да меккакскага цыкла. Згадваецца пазіцыя стараарабскіх паэтаў і іх роля ў старадаўнім дамусульманскім грамадстве, падкрэсліваецца розніца паміж паэтам і Прарокам. Ворагі Мухаммеда часам сцвярджалі, што Мухаммед толькі варажбіт і ніхто больш; у старадауняй гісторыі арабау сцвярджалі, што паэтаў падбухторваюць д ж ы н ы.

Сура складаецца з кароткага ўступу і сямі аповядаў аб місіі прарокаў, пасылаемых Аллагам да розных народаў: М у с ы (Майсея), І б р а г і м а (Аураама), Н у г а (Ноя), Г у д а (Худа), С а л і г а (Саліха), Л у т а (Лота) і Ш у а й б а. Гэтыя аповяды маюць на мэце падтрымаць вернікаў у час пераследаў і супраціўлення, бо хоць усіх пасланнікаў Аллага праследавалі, аднак у выніку крыўдзіцелі атрымалі заслужаную кару... Сура адзначае, што ўсе пасланнікі прыходзілі да людзей з прарочай місіяй. Адметнасцю гэтай суры ёсць пастаянны рэфрэн: "... сапраўды, у тым ёсць знак, але большасць людзей не вераць! Сапраўды, твой Гасподзь ёсць Магутны, Міласцівы!"

Ю. Бяляўскі.

БАБУР, Захірыддзін Мухаммед (1483 - 1530 гг.), падзішах Індыі, заснавальнік дынастыі В я л і к і х М а г о л а ў, палкаводзец, пісьменнік. Паходзіў з роду Цімурыдаў. Маці Бабура была дачкой правіцеля Ташкента -- Т. Юнусхана. У 12 гадоў Бабур атрымаў пасад Ферганы. У 1495 - 1512 гг. вёў барацьбу за аднаўленне імперыі Цімурыдаў у Мавераннахры. У 1504 г. быў выгнаны з Сярэдняй Азіі Ш а й б а н і д а м і. У той жа год заваяваў Кабул. Да 1512 г. неаднаразова спрабаваў вярнуць Бухару і Самарканд. З 1519 г. здзяйсняў паходы ў Індыю. Аўтар больш за 100 газелей, якія дайшлі да нашага часу, каля 200 рубаяў, некалькіх цюгаў, месневі, кіцці і фардаў. Вершы сабраны ў асобны дыван. У галоунай працы Бабура -- аутабіяграфічным "Бабуname", першым узоры гэтага жанру ў узбекскай літаратуры, расказваецца пра розныя падзеі з 1443 г. да 1529 г., апісаны побыт, норавы і звычаі эпохі. Бабур напісаў таксама кнігу "Трактат аб арузе" (метрычнае вершаскладанне), аб правазнаўстве "Мубайін", якое мела ў свой час пэўнае навуковае і практычнае значэнне.

Ташкент. Энцыклапедыя. 1983.

**ВЯЛІКІЯ МАГОЛЫ**, феадальная дынастыя ў Індыі, якая правіла з 1526 г. да 1858 г. Заснавана ферганскім феадалам Б а б у р а м. Імперыя Вялікіх Маголаў у 17 ст. займала большую частку Індыі і паўднёва-ўсходні Афганістан. Сучаснікі-еўрапейцы лічылі Бабура манголам і сталі называць заснаваную ім дынастыю Вялікімі Манголамі ( скарочана -- Маголы ). У пачатку 18 ст. імперыя распалася на шэраг асобных дзяржаў. Вялікія Маголы пасля гэтага фактычна валодалі толькі горадам Дэлі і суседнімі раёнамі. У 1803 г. Дэлі захапілі англічане. У час індыйскага народнага паўстання 1857 - 59 гг. апошні прадстаўнік Вялікіх Маголаў Бахадур-шах II ( правіў у 1837 - 78 гг. ) засуджаны англічанамі на пажыццёвую высылку.

**З розных даведнікаў.**

**ГАФФАР**, а л ь Г а ф ф а р, адзін з эпітэтаў А л л а г а. З арабскай мовы тлумачыцца як Усёдаравальны.

**ГЕМБІЦКІ** Ібрагім Рафаілавіч ( 17. 10. 1900 г., Менск -- 1. 1. 1974 г. ), беларускі графік. Татарын. Скончыў Маскоўскі інстытут выяўленчага мастацтва ( 1938 г. ). Вучань У. А. Фаворскага. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1921 г. Працаваў у тэхніках ксілаграфіі і каляровай лінагравюры. Сярод твораў выкананыя ў тэхніцы тарцовай гравюры ілюстрацыі да аповесці Я. Коласа " Дрыгва " ( 1938 г. ), серыя " Разгром белапольскіх акупантаў у 1920 г. " ( 1939 - - 40 гг. ), каляровыя лінагравюры " Выган жывёлы на Усход у час вайны ", " Чырвоны абоз -- хлеб дзяржаве " ( абедзве 1947 г. ), " Веснавая сяўба " ( 1948 г. ), " Пуск калгаснай ГЭС " ( 1950 г. ), " Уборка ураджаю " ( 1952 г. ), " Будынак палітэхнічнага інстытута ў Менску " ( 1953 г. ), серыі " Менскі жалезабетонны завод " ( 1958 г. ) і " Менскі камвольны камбінат " ( 1960 г. ) і інш. Творы Гембіцкага вылучаюцца ўраўнаважанасцю кампазіцыі, танальным багаццем гравіроўкі, значнасцю тэматыкі.

**Энцыклапедыя Літаратуры і Мастацтва Беларусі, т. 2, 1985.**

**ГУРЫНОВІЧ** Адам Гіляры Калікставіч ( 25. 1. 1869 г., былы фальварак Кавалі Мядзельскага раёна Менскай вобл. -- 4. 2. 1894 г., па іншых звестках 20. 1. 1894 г., фальварак Крыстынопаль Смаргонскага

раёна Гродзенскай вобл. ), паэт, фальклaрыст, рэвалюцыянер . Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах .

Са старадаўняга небагатага шляхецкага роду татарскага паходжання ( герб " Праўдзіц " ), вядомага з 15 - 16 ст.ст. Бацькі, Калікст Іасафатавіч і Элеанора з Сяняўскіх ( паходзіла з гетманскага роду ) мелі некалькі дробных фальваркаў . Спачатку сям'я жыла ў Кавалях ( Кавальках ), пасажным фальварку маці, дзе нарадзіліся Адам і яго старэйшы брат Юзаф . Потым пераехалі у Крыстынопаль, які быў суполнай уласнасцю Калікста Іасафатавіча і яго брата Абдона . Тут нарадзіліся браты і сёстры Адама -- Ян, Станіслаў, Канстанцыя і Галена. Бацька рана памёр, пакінуўшы маладую ўдаву з шасцю дзецьмі. Вырашана было даць старэйшаму сыну Юзафу вайсковую адукацыю, а Адаму і Яну -- практычную ( рэальнае вучылішча ). Для зручнасці ў недалёкай Вільні сям'я купіла невялікі дом у Пірамонцкім завулку, N 22 ( цяпер вуліца Мельнікайце, дом захаваўся пад старым нумарам ). З гэтым домам звязана пара духоўнага станаўлення А. Гурыновіча . Афіцыйныя поспехі яго ў час вучобы ў Віленскім рэальным вучылішчы ( 1879 - 87 гг., уключаючы гадавую спецыялізацыю на механіка-тэхнічным аддзяленні дадатковага класа вучылішча ) былі сярэднія, але ўжо тады А. Гурыновіч пачаў цікавіцца беларускім фальклорам, пытаннямі грамадскага жыцця, рабіць літаратурныя спробы . У 1887 г. ён паступіў у Тэхналагічны інстытут ( Пецярбург ). Стаўшы студэнтам, падобна іншым калегам-разначынцам упарта пераадольваў матэрыяльныя цяжкасці . Але неўзабаве захварэў на тыф і пасля лячэння ў гарадской бальніцы ў студзені 1888 г. быў вымушаны часова звольніцца з інстытута і вярнуцца на радзіму . Увосень 1888 г. зноў паступіў на 1-ы курс . У студэнцкія гады шмат займаўся літаратурай, у той перыяд ён напісаў свае лепшыя творы . Захапляўся А. Гурыновіч і тэхнічнымі навукамі . Паводле ўспамінаў блізкіх, " спецыяльна займаўся ўдасканаленнем паравозаў і ў гэтым пытанні меў быць, як кажуць, на дарозе да важных і цікавых вымыслаў ". ( Пачынальнікі. Мн., 1977 г., с. 481 ). Адначасова штудзіраваў працы беларускіх фальклarыстаў ( І. Насовіч, П. Штэйн ), на канікулах папаўняў у ваколіцах Крыстынопаля свае фальклорна-этнаграфічныя зборы . У 1890 г. ён пераслаў узоры сваіх запісаў у Варшаву Яну Карловічу, які быў блізкім земляком, амаль суседам па Вішневу, просячы яго парад у фальклорна-этнаграфічнай працы . Карловіч у сваю чаргу даслаў матэрыялы А. Гурыновіча ў Кракаўскую Акадэмію навук, дзе яны былі надрукаваны у 1893 г. у часопісе " Zbiór wiadomości do antropologii krayowey " ( " Збор звестак па айчыннай антрапалогіі " ) і асобнай адбіткай . У той жа час

А. Гурыновіч напружана працаваў над пытаннямі грамадскага жыцця, вывучаў перадавую філасофскую ( у тым ліку марксісцкую ) літаратуру, прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, у студэнцкім " Гуртку моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай ", які ўтварыўся ў 1889 г. і хутка эвалюцыяніраваў ад зямляцкай арганізацыі культурна-асветніцкага характару ў бок падпольнай антыўрадавай арганізацыі, цесна звязанай з іншымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі Пецярбурга, сярод якіх былі і групы першых расійскіх марксістаў ( у іх складзе блізкія сваякі Ф. Багушэвіча муж і жонка Г. і Ю. Радзевічы ). Блізкімі таварышамі А. Гурыновіча па падпольнай рабоце былі Ю. Бурачэўскі, К. Акуліч і І. Немкойчыцкі . Як адзін з кіраўнікоў " Гуртка " ён у пісьме да сяброўкі С. Пяткевіч у Цюрых ( 1892 г. ) прасіў арганізаваць дастаўку для гуртка вялікай партыі рэвалюцыйнай літаратуры на беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах, прац Маркса, Энгельса, Пляханава, Ласаля, Лібкнехта . Пісьмо было перахоплена паліцыяй, якая пачала сачыць за членамі гуртка . У 1893 г. А. Гурыновіч быў арыштаваны ў сваім доме ў Вільні, дзе пры вобыску знайшлі нямала забароненай літаратуры . Яго даставілі спачатку ў " будынак N 14 " Віленскай цытадэлі, адкуль потым неадкладна адправілі пад вартай у Пецярбург, дзе трымалі ў доме папярэдняга зняволення, а таксама, па некаторых звестках, у Петрапаўлаўскай крэпасці . У тым жа годзе ён выпушчаны з-за хваробы і высланы пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак Крыстынопаль, дзе неўзабаве памёр ад чорнай воспы .

Як беларускі дзеяч і паэт А. Гурыновіч сфарміраваўся пад уплывам народніцкага " Гомана " і творчасці Ф. Багушэвіча . Пэўны ўплыў на яго мелі таксама традыцыі паўстання 1863 г., ідэі К. Каліноўскага ( сярод захопленых паліцыяй папер былі нататкі, звязаныя з паўстаннем 1863 г. ). Пад уздзеяннем марксісцкай тэорыі ў поглядах А. Гурыновіча знайшлі далейшае развіццё рэвалюцыйна-дэмакратычныя, народніцкія ідэі . Увайшоў у гісторыю роднай літаратуры як паэт-рэвалюцыянер, барацьбіт з панамі і самаўладствам . Першы з беларускіх рэвалюцыянераў звярнуўся да рабочай тэмы . Ён адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай паэзіі . Каштоўным быў таксама вопыт пісьменніка ў перакладах з польскіх, рускіх, украінскіх твораў ( у ліку перакладаў - блізкі паэт па духу " вечны рэвалюцыянер І. Франко ). Магіла Гурыновіча была разбурана у час Першай сусветнай вайны і цяпер невядома . Імем паэта названа вуліца у Старым Мядзелі .

Г. В. Кісялёў.

**ДВАНАДЗЕСЯТЫЯ СВЯТЫ** . 12 найбольш значных свят праваслаўя : Раджджаство Хрыстова ( Каляды ), Хрышчэнне Гасподняе ( Святое Богаяўленне ), Стрэчанне Гасподняе ( Грамніцы ), Добравешчанне Прасвятой Багародзіцы, Уваход Гасподні ў Іерусалім ( Вербніца ), Узнясенне Гасподняе, Тройца ( Пяцідзесятніца ),Ператварэнне Гасподняе ( Другі Спас, Яблычны Спас ), Успенне Прасвятой Багародзіцы, Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы, Узвзвіжанне Крыжа Гасподняга, Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы . Разам са Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем ( Пасхай, Вялікаднем ) гэтыя святы з'яўляюцца галоўнымі святамі праваслаўнай царквы . Пра кожнае гэтае свята глядзіце асобны артыкул .

**Беларускі праваслаўны каляндар, 1993.**

**ЖУКОВІЧ** Васіль Аляксеевіч ( нарадзіўся 7. 11. 1940 г., в. Забалацце Камянецкага раёна Брэсцкай вобл. ), паэт, празаік, перакладчык .

З сялянскай сям'і, дзе было восем дзяцей, двое з якіх памерлі малымі . Бацька В. Жуковіча, Аляксей Іванавіч увесь час працаваў на гаспадарцы . Дзеці выхоўваліся больш пад уплывам маці, Яўгеніі Дзянісаўны, якая вучыла іх дабру, справядлівасці . Сама яна была непісьменнаю і вельмі хацела, каб дзеці набылі адукацыю . Вёска, дзе нарадзіўся паэт, была заснавана пагарэльцамі, з в. Дзмітравічы, што стаіць на шляху Брэсце -- Белавежская пушча, лічылася неперспектыўнай . У 60-я гады ўсе жыхары яе перасяліліся ў цэнтр саўгаса . Але глыбока у памяць паэта запала хараство роднага кута . Назіранні за з'явамі прыроды выклікалі жаданне ствараць вершы . Аднак В. Жуковіч не толькі зачароўваўся прыгажосцю родных мясцін, моцна бянтэжыла яго і тое, што учынялася на радзіме ў пасляваенныя гады, на якіх ляжаў цень сталінскага дэспатызму . Не абышоў цяжкі лёс у той час і яго блізкіх -- старэйшага брата і бацьку, якія незаконна былі асуджаны .

У 1947 г. В. Жуковіч стаў вучнем Дзмітравіцкай сярэдняй школы . У 1956 г. ў газеце " Піянер Беларусі " былі надрукаваны яго першыя вершы . Пасля сканчэння сярэдняй школы ( 1957 г. ) В. Жуковіч два гады працаваў рабочым на заводзе будаўнічых дэталяў у Брэсце . У 1959 г. паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага

інстытута . У час навучання актыўна ўдзельнічаў у рабоце літаратурнага аб'яднання пры абласной газеце " Зара ". Кіраваў аб'яднаннем яго інстытуцкі выкладчык, вядомы беларускі крытык У. Калеснік .
Але творчы лёс В. Жуковіча складваўся цяжка . Пакутліва перажываў ён нечаканую раннюю страту : у 1959 г. заўчасна памерла маці . З-за цяжкага матэрыяльнага становішча у 1962 г. ён перавёўся на завочнае аддзяленне інстытута і пачау працаваць у рэдакцыі брэсцкай раённай газеты " Зара над Бугам " -- спачатку літсупрацоувікам, потым загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркі . У 1964 г. скончыў інстытут . З 1971 г. В. Жуковіч старшы рэдактар Брэсцкай студыі тэлебачання . У 1972 г. ён пераехаў у Мінск, стау літкансультантам газеты " Знамя юности ". У 1973 - 80 гг. працаваў рэдактарам у выдавецтве" Мастацкая літаратура ". З 1981 г. да 1982 г. намеснік галоўнага рэдактара ў выдавецтве " Юнацтва ".

Актыуна ў друку выступае В. Жуковіч з 1956 г. Выдаў зборнікі вершаў " Паклон " ( 1974 г. ), " Мелодыя святла " ( 1976 г. ), " Суседства " ( 1982 г. ), " Цана цішыні " ( 1985 г. ), " Твая місія " ( 1988 г. ), " Разняволенне " ( 1990 г. ), аповесць " Як адна вясна..." ( 1980 г. ), кнігу для дзяцей " Тарасаў самакат " ( 1988 г. ), шэраг кніжачак-раскладушак .

В. Жуковіч -- паэт шырокага дыяпазону . Піша лірычныя, публіцыстычныя і жартоўныя вершы, байкі і прытчы, эпіграмы і эпітафіі, а таксама вершы і прозу для дзяцей . Асноўная тэматыка яго творчасці -- маральна-этычныя праблемы сучаснасці, вясковае дзяцінства і юнацтва, хараство роднай прыроды, выкрыццё і асуджэнне недахопаў, розных заган у чалавечым характары . Аўтар добра разумее дзіцячую псіхалогію, што садзейнічае выхавачаму уздзеянню яго на дзяцей .

Творы В. Жуковіча перакладзены на літоўскую, рускую, украінскую мовы . В. Жуковіч пераклаў творы з украінскай, літоускай, армянскай, туркменскай ( творы Махтумкулі ) і старажытнаўзбекскай мовы ( Наваі, кніга Алішэр Наваі, лірыка, Мн., 1993, 26 газелей, урыукі з паэм " Допыт Фархада Хасровым ", " Пасланне Шырын да Фархада ", " Пасланне Лайлі да Мяджнун ", з пасляслоўем В. Жуковіча -- Стыхія духоўнасці ).

А. А. Майсейчык .

**КАФІРУН**, а л ь  К а ф і р у н, 109 сура з Кур'ана. Складаецца з 7 аятаў. Назва паходзіць ад слова аль Кафірун з 2 аята, што перакладаецца на беларускую мову -- няверныя. Сура мекканскага цыкла. Змест суры - гэта як бы дэкларацыя Прарока аб поўным разрыве з даўняй рэлігіяй арабаў. Паводле некаторых каментатараў Кур'ана сура была абвешчана Прароку ў адказ на прапанову мекканцаў, якія моцна трымаліся даунейшай паганскай веры і хацелі пайсці на кампраміс -- пакланяцца Аллагу і паганскім боствам.

Ю. Бяляўскі.

**МАГАМЕД-МІРЗОЕЎ** Хаваджы, нарадзіўся ў сакавіку 1910 г. ў сяле Алхазурава Урус-Мартанаўскага раёна Чэчэнскай рэспублікі, у сялянскай сям'і. Чэчэнец. Скончыўшы Грозненскае педвучылішча працаваў настаўнікам, дырэктарам школы ў родным сяле. У Чырвонай Арміі з 1941 г. На фронце з 1943 г. Памочнік камандзіра узвода гвардыі старшы сержант Х. Магамед-Мірзоеў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Камарынскім раёне Палескай вобл. 28. 9. 1943 разам з кулямётным разлікам першым пераправіўся цераз раку. Кулямётчыкі ачысцілі бераг ад праціўніка, што садзейнічала пераправе падраздзяленняў палка. Загінуў у баі 30. 9. 1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15. 1. 1944 г. Яго імя носяць вуліцы на радзіме і ў Грозным.

Навечно в сердце народном,1977.

**МАХТУМКУЛІ** ( псеўданім Фрагі ; каля 1730 - 80 гг. 18 ст. ), туркменскі паэт, пачынальнік туркменскай літаратуры. Вучыўся ў Хівінскім медрэсе. Шмат падарожнічаў ( Бухара, Азербайджан, Іран, Афганістан ). Пісаў лірычныя, сатырычныя, філасофскія вершы, лірычныя і ліра-эпічныя паэмы. Зберагліся больш за 10 тысяч радкоў яго вершаў. Высмейваў карысліваць людзей, асуджаў племянныя спрэчкі ( " Заклік ", " Птушка шчасця " ). Выказваў пратэст абяздоленых мас супраць феадальна-байскага уціску ( " Шукае ", " От часы " і інш.'). Наблізіў туркменскую паэтычную мову да народнай, адмовіўся ад араба-персідскай метрыкі ( аруз ), прынятай у туркменскай

літаратуры, замяніў яе народнай сілабічнай сістэмаю . Творы Махтумкулі ўпершыню апублікаваны у 1842 годзе .

Пераклад некаторых твораў Махтумкулі на беларускую мову выканаў В. Жуковіч ( " На чужыне ", " У невядомасці ", " Не адрозню", " Агонь разлукі ", " Ад музыкі вачэй... ", " Не вечны ты ", " Дыялог ", " Тває справы ", " Салавей шукае ружу " ).

**Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 7, 1973.**

<u>МАЦА</u> ( правільна -- м а ц ц а , м а ц ц о т , у літаральным перакладзе з іўрыту азначае " выціснутае ", " пазбаўленае вільгаці " ), печыва з цеста, якое не прайшло ферментацыю ( у адрозненне ад " квашанага " ), адзіны від хлеба, дазволены іудзеям для спажывання на працягу пасхальнага тыдня ( гл. П е с а х ). Біблія наказвае ужываць мацу у Песах як напамін габрэям, што у час з ы х о д у ізраільцяне " спяклі з цеста, якое яны вынеслі з Егіпта, праснакі, бо цеста яшчэ не скісла, таму што яны выгнаны былі з Егіпта і не маглі марудзіць...." ( Зыход, глава 12, верш 39 ).

Мацу пякуць толькі са збожжа, мука з якога здольна прайсці ферментацыю ( пшаніца, полба, ячмень, жыта, авёс ). Практычна ва ўсіх габрэйскіх абшчынах мацу выпякаюць з пшанічнай мукі . Працэс ад замесу мукі да выпечкі не можа перавышаць 18 хвілін -- мінімальнага часу да пачатку ферментацыі . Наказ Бібліі ( Зыход, глава 12, верш 15) -- " сем дзён ешце мацу " трактуецца не як патрабаванне есці мацу, а як забарону есці квашанае . У Бібліі маца называецца таксама хлебам беднасці ( Другазаконне, глава 16, верш 3 ). Зыходзячы з гэтага к а р а і м ы пякуць мацу з ячменнай мукі, якую бедвякі ужываюць для выпечкі хлеба . Дазваляецца прыгатаванне мацы з мукі, якая замешваецца без вады на яйках, масле, віне ці мёдзе ( так званая маца а ш ы р а -- " б а г а т а я м а ц а " ). Звычайна такую мацу дазваляецца ўжываць толькі хворым і састарэлым .

**Краткая Еврейская Энциклопедия, т. 5, 1990.**

<u>МУГСІН</u> , а л ь М у г с і н , адзін з эпітэтау А л л а г а . З арабскай мовы тлумачыцца як Дабратворны .

**НАРАДЖЭННЕ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ** .

Нараджэнне Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі, Раство Багародзіцы, вернікі-праваслаўныя адзначаюць ( святкуюць ) як адзін з дванадзесятых свят 8 верасня па старым стылі ( 21 верасня па новым стылі ). У Беларускім праваслаўным календары на 1994 год на старонках 55 і 56 пра гэта свята сказана наступнае :

" Нараджэнне Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі святкуецца Царквою як дзень сусветнай радасці . Гэта дабратворная падзея адбылася ў невялікім галілейскім горадзе Назарэце . Бацькамі Дзевы Марыі былі праведны Іаакім з роду прарока і цара Давіда і Ганна з роду першасвяшчэнніка Аарона . Яны былі бяздзетныя, бо Ганна была няплодная . І гэта ў тыя часы лічылася пакараннем за грахі, таму Іаакім і Ганна цярпелі несправядлівыя здзекі ад сваіх суайчыннікаў . Аднак яны не гублялі надзеі на літасць Божую і далі абяцанне прысвяціць Богу для служэння ў храме дзіця, калі яго ім пашле Гасподзь . У адно са свят старац Іаакім прынёс у Іерусалімскі храм сваё ахвярнае прынашэнне, але першасвяшчэннік не прыняў яго, бо Іаакім быццам быў няварты гэтага па прычыне сваёй бясплоднасці . У вялікім смутку , прыгнечаны горам, святы Іаакім пайшоў у пустэльню, дзе са слязьмі маліўся Богу аб дараванні яму дзіцяці . Святая Ганна, даведаўшыся пра гэта здарэнне, таксама шмат і шчыра малілася . Гасподзь выканаў іх прашэнне . Муж і жонка дасягнулі сталага ўзросту і надрыхтавалі сябе дабрадзейным жыццём да высокага звання -- быць бацькамі Прасвятой Дзевы Марыі, будучай Маці Госпада Нашага Ісуса Хрыста . І вось Архангел Гаўрыіл прынёс Іаакіму і Ганне радасную вестку : малітвы іх пачуты Богам, і ў іх народзіцца Найблаславеная дачка Марыя, праз Якую будзе даравана выратаванне ўсяму свету . Нараджэнне Багародзіцы наблізіла прышэсце на зямлю дабратворнага Царства Нябеснага, царства ісціны і бессмяротнага жыцця ".

Беларускі праваслаўны каляндар, 1993.

**ПАЛАНІЗАЦЫЯ** . сістэма мерапрыемстваў польскіх дзяржаўных органаў і каталіцкага духавенства на асіміляцыі беларускага народа . Пачалася пасля Крэўскай уніі 1385 года, калі ў касцёлах, заснаваных на беларускіх землях, набажэнствы вяліся на

лацінскай, а казанні на польскай мовах . Польскі элемент меў трывалыя пазіцыі ў каталіцкіх навучальных установах і выдавецкай справе . У 1525 - 99 гадах з 324 кніг, надрукаваных у Вялікім Княстве Літоўскім, 151 была на лацінскай, 114 -- на польскай, 50 -- на беларускай мовах . Пасля Люблінскай уніі 1569 года палітыка паланізацыі актывізавалася . У 1696 г. ўсеагульная канфедэрацыя саслоўяу Рэчы Паспалітай юрыдычна аформіла ўвядзенне ў справаводства польскай мовы замест беларускай . Разам з польскай мовай на Беларусь праз польскіх феадалаў і мясцовую беларускую шляхту і памешчыкау, якія прынялі каталіцтва, прыйшлі і іншыя духоўныя каштоўнасці польскага этнасу . У выніку частка беларусаў адраклася ад сваёй этнічнай прыналежнасці . Пасля задушэння паўстанняў 1830 - 31 гадоў і 1863 - 64 гадоў улады Расійскай імперыі змянілі паланізацыю на русіфікацыю . У 1921 - 39 гадах, калі Заходняя Беларусь знаходзілася ў складзе Польшчы, у выніку палітыкі паланізацыі тут амаль не засталося беларускіх школ .

Л. М. Лыч .

**РУСІФІКАЦЫЯ** , мэтанакіраваная палітыка ўлад Расійскай імперыі і Савецкай дзяржавы па свядомым адрыве беларускага народа ад гістарычных традыцый, роднай культуры і мовы, насаджэнні сярод яго рускай мовы і ладу жыцця . У дачыненні да Беларусі русіфікацыя ў асноуных рысах сфармулявана у канцы 18 ст., у поўным маштабе праводзілася ў 19 ст. з часу праўлення імператара Мікалая I ( 1825 - 55 гг. ). У грамадскім, культурным і рэлігійным жыцці беларускіх зямель укаранялася руская дзяржаўная ідэалогія і афіцыйнае праваслаўе. З 1840 г. Беларусь афіцыйна сталі называць Паўночна-Заходнім краем . Да 1863 г. тут была скасавана вышэйшая школа, змест адукацыі і выхавання ў навучальных установах набыў рускі характар, выкладанне пераведзена на рускую мову, з 1867 г. забаронена выданне кніг на беларускай мове . У выніку маладыя генерацыі беларускага народа не мелі магчымасці працаваць у роднай культурна-моуцай традыцыі .

З пачатку 20 ст. пад уплывам беларускага нацыянальнага руху разбуральнае ўздзеянне русіфікацыі на беларускую культуру і мову, нацыянальную свядомасць іх носьбітау было аслаблена . Новая хваля русіфікацыі беларусаў распачалася па ініцыятыве кампартыі з канца 20-х гадоу 20 ст. У час кампаніі супроць так званага " нацыянал-

дэмакратызму", разгортвання калектывізацыі, рэпрэсій палітычных у Беларускай ССР Беларусь страціла найбольш сталую і нацыянальна свядомую частку свайго этнасу . Пасля Другой сусветнай вайны працягам русіфікацыі стала палітыка КПСС па збліжэнні і зліцці савецкіх нацый і народнасцей . Асаблівая ўвага ідэалагічнага апарату партыі звярталася на дэнацыяналізацыю маладога пакалення праз адукацыю, культуру, сродкі масавай інфармацыі і інш. Актыўнымі праваднікамі русіфікацыі на Беларусі ў савецкі час выступалі органы дзяржаўнай улады і кіравання , многія афіцыйныя грамадскія арганізацыі .

Л. М. Лыч.

САХАРАЎ Андрэй Дзмітравіч ( 21. 5. 1921 г., Масква -- 14. 12. 1989 г. ), рускі фізік і барацьбіт за правы чалавека . Нарадзіўся ў сям'і прафесара фізікі Маскоўскага педагагічнага інстытута . Скончыў фізічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта . Працаваў на ваенным заводзе ў Паволжы . Доктар фізіка-матэматычных навук ( 1947 г. ), акадэмік АН СССР ( 1953 г. ). Удзельнічаў у стварэнні вадароднай бомбы, да 1968 г. працаваў над удасканаленнем ядзернай зброі . Ацэнка навуковых заслуг Сахарава немагчыма да заканчэння тэрміну сакрэтнасці яго прац . Ён зрабіў многа для развіцця ядзернай зброі, скарыстання сілы атама ў мірных мэтах . У 1969 г. апублікавана арыгінальная праца Сахарава аб ролі антыкваркаў, якія магчыма тлумачаць баланс рэчыва і антырэчыва . Яна дае падставы лічыць, што ўклад Сахарава ў вучэнне пра Сусвет не меншы, за працы ў ядзернай тэхналогіі .

З цягам часу ў Сахарава нарадзілася пачуццё пратэсту супроць ядзерных выпрабаванняў . У 1958 г. ён склаў мемарандум для М. С. Хрушчова, бо быў упэўнены ў тым, што выпрабанні ядзернай зброі правакуюць гонку ўзбраенняў ; выступіў супроць планаў Хрушчова па скарачэнні сярэдняй адукацыі . Пяць гадоў пазней яму ў ліку іншых вучоных удалося выратаваць савецкую генетыку ад згубнага ўплыву агранома Трафіма Лысенкі і тых дзяржаўных і партыйных невукаў, якія кіравалі краінай і навукай . Сахараў выступаў за скасаванне цэнзуры, супроць палітычных працэсаў, супроць памяшчэння дысідэнтаў у бальніцах для вар'ятаў . Пратэсты Сахарава маглі быць надрукаваны толькі за мяжой . У ЗША быў апублікаваны маніфест пад

назвай " Прагрэс, суіснаванне, інтэлектуальная свабода ". У 1970 г. Сахараў разам з іншымі савецкімі фізікамі заснаваў камітэт " За правы чалавека " для увасаблення прынцыпаў усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека .

Сахараў быў адзначаны Нобелеўскай прэміяй міру 1975 г. за " бясстрашную падтрымку фундаментальных прынцыпаў міру паміж людзьмі " і за " мужную барацьбу са злоўжываннямі ўладай і любымі формамі падаўлення чалавечага гонару ". Было адзначана : " Камітэт шкадуе аб тым, што Андрэю Сахараву не далі магчымасці.....атрымаць прэмію міра асабіста . Узнагароду прыняла жонка вучонага -- Алена Бонэр, якая прачытала Нобелеўскую лекцыю Сахарава " Мір, Прагрэс, Правы чалавека ". Калі Андрэй Сахараў у 1980 г. рэзка асудзіў савецкі напад на Афганістан, ён быў пазбаўлены ўсіх узнагарод, уключна звання Героя Сацыялістычнай Працы, і без суда сасланы ў Ніжні Ноўгарад ( тады горад Горкі ). Сахараў жыў пад хатнім арыштам . У снежні 1989 г. савецкі кіраўнік Міхаіл Гарбачоў паведаміў Сахараву па тэлефоне аб заканчэнні яго ссылкі . Сахараў падрыхтаваў праект " Канстытуцыі Саюза Савецкіх рэспублік Еўропы і Азіі ". Як дэпутат Вярхоўнага Савета выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета, у прамове сказаў пра жудасныя злачынствы супроць чалавецтва, якія чыніліся савецкімі воінамі ў Афганістане . Загінула больш за 12 тысяч савецкіх салдат ( у тым ліку больш за 750 з Беларусі ), дзесяткі тысяч паранены, многія тысячы пацярпелі маральную траўму, забіваючы цывільнае насельніцтва Афганістана ( колькасць гэтых ахвяр не была апублікавана ), разбурана іх жытло . Мільёны тэлегледачоў бачылі надзвычай брутальныя паводзіны М. С. Гарбачова ў адносінах да А. Дз. Сахарава ў час яго выступлення ў Вярхоўным Савеце . Мяркуюць, што паводзіны Гарбачова ў адносінах да Сахарава паскорылі смерць вучонага і барацьбіта за правы чалавека . Сахараў абараняў правы крымскіх татар, якіх Сталін у 1944 г. выслаў з радзімы . Як і многія народы, яны вельмі удзячны Сахараву за яго мужную барацьбу за справядлівасць . У пасёлках Крыма, якія будуюць крымскія татары, вуліцы называюць у гонар заступніка крымскіх татар -- А. Дз. Сахарава.

Паводле кнігі Лауреаты Нобелевской премии .
Энциклопедия. 1992.

**ТРАВЕНЬ**, м а й, 5-ы месяц каляндарнага года ( 31 дзень ), апошні месяц вясны.

У Менску працягласць дня 15-га траўня 15 гадз. 58 хвілін, вышыня Сонца над гарызонтам у поўдзень 54,8*, месячны радыяцыйны баланс дадатны ( 291 МДж кв. м ). Сярэдняя тэмпература паветра ў траўні 13,2 - 14,6* С на поўдні і 11,6 - 12,6* С на поўначы ; абсалютны максімум тэмпературы паветра на паўднёвым захадзе 34, на поўначы -- 32 ; абсалютны мінімум на паўднёвым усходзе -5, на поўначы ( Докшыцы, гар. пас. Лынтупы ) -8* С. У пачатку траўня завяршаецца пераход сярэдняй сутачнай тэмпературы паветра ў бок павышэння праз 10* С на поўначы, у 3-й дэкадзе -- праз 15* С на поўдні і паўднёвым захадзе. Звычайна сярэдняя тэмпература днём 16 - 18* С ( у вельмі гарачыя дні да 30 - 34 ) ; ноччу 9 - 10 на паўднёвым захадзе, 7 - 9* С на паўночным усходзе. У канцы 1-й палавіны траўня на поўначы спыняюцца начныя замаразкі ; у асобныя гады яны магчымы на працягу ўсяго траўня і пачатку чэрвеня. Замаразкі на глебе спыняюцца пазней. Прыкладна 6 разоў за дзесяцігоддзе замаразкі ў траўні захопліваюць усю тэрыторыю Беларусі.

Для траўня характэрны так званыя звароты халадоў, якія наступаюць пасля цёплых дзён з тэмпературай 15 - 20* С. Пахаладанні зрэдку суправаджаюцца снегападамі, у асобных раёнах снегавое покрыва захоўваецца на працягу сутак. Тэмпература супясчанай і лёгкасуглінісчанай глебы на глыбіні 5 см на поўначы 13* С, на поўдні 14 -- 17* С, суглінiстых і асушаных тарфяна-балотных глеб на 1 - 3* С меншая. Працягласць сонечнага ззяння дасягае 250 - 270 гадзін ( 52 - 58 % ад магчымага ). Пахмурных дзён у траўні на поўначы ў сярэднім 9 - 10, на поўдні -- 6 - 8, ясных 2 - 4 .Для траўня характэрна найменшая адносная вільготнасць ( 68 - 72 % ), колькасць вільготных дзён -- 2 - 4 ; колькасць сухіх дзён 1 - 3 на поўначы і 3 - 7 на паўднёвым усходзе, у асобныя гады на поўдні 10 і болей ( Васілевічы, Лельчыцы -- 13, Жлобін -- 14, 1949 г. ). Атмасферныя ападкі на большай частцы тэрыторыі складаюць 55 - 60 мм , у раёне Навагрудскага ўзвышша 60 - 65 мм і болей ; у асабліва даждлівыя гады 110 - 200 мм ( Віцебск -- 206. 1928 г. ), у засушлівыя складалі 5 - 13 мм і менш ( Жлобін -- 4, 1936 г. ; Шаркоўшчына -- 4, 1971 г. ).
У траўні часта ствараецца неспрыяльны рэжым увільгатнення, часам назіраецца высушванне ворнага і больш глыбокага слоя глебы, асабліва

на лёгкіх глебах паўднёвых раёнаў. Бываюць моцныя вятры, пылавыя буры, град, ліўні ; вецер выдзімае глебу, агаляе карані раслін і паскарае высушванне глебы ; моцныя ліўні выклікаюць эрозію глебы.

Травень -- разгар цвіцення пладова-ягадных дрэў і кустоў, клёну востралістага, дубу, горкага каштану, чаромхі і інш. Пачынаюць каласіцца жыта, азімая пшаніца, узыходзяць яравыя, вядзецца сяўба позніх яравых культур, ільну-даўгунцу, пасадка бульбы, пасеў агуркоў; на поўдні ў 2-й, на астатняй тэрыторыі у 3-й дэкадзе траўня ў грунт высаджваюць расаду таматаў. Цвітуць медуніца, ясноткі белая і пурпуровая, адуванчык лекавы, фіялкі, незабудкі. Зацвітае пералеска, кураслеп, канюшыны лугавая і паўзучая. Вырастаюць першыя вясеннія грыбы -- смаржкі і страчкі. Паяўляюцца насякомыя, вяртаюцца з выраю птушкі -- стрыжы, ластаўкі, мухалоўкі, івалгі і інш. ; у некаторых птушак выводзяцца птушаняты. Заканчваецца вясенняя лінька звяроў. Паяўляецца прыплод у аленяў, ласёў, казуль, тхароў, норак, баброў, вожыкаў ; у зайцоў ужо другі прыплод, у палёвак звычайных -- трэці. Нерастуе рыба ў рэках і азёрах, паяўляюцца малявкі.

З лекавых раслін у траўні збіраюць пупышкі бярозы ( да распускання ), лісце суніц, талакнянкі звычайнай, барбарысу звычайнага, крапівы двухдомнай, лісце і карані першацвету веснавога, траву падтынніку вялікага, фіялкі палявой, карані дзівасілу высокага, кветкі глогу калючага, кветкі і лісце падбелу, кару крушыны ломкай, дубу звычайнага, каліны звычайнай, чагу.

Метэаралагічныя паказчыкі на некаторых метэаралагічных станцыях Беларусі глядзі ў табліцы.

У траўні святочныя нерабочыя дні :
1 траўня -- Дзень працы ; 9 траўня -- Дзень Перамогі.

Паводле праваслаўнага календара ў траўні святкуюць Светлае Хрыстова Уваскрэсенне -- Пасху, Вялікдзень -- 1 траўня 1994 г., 5 траўня 2002 г.

**М. П. Хаміцкі.**

**Метэаралагічныя паказчыкі месяца траўня па некаторых метэаралагічных станцыях Беларусі**

| Назва станцыі | Тэмпература паветра ў градусах С | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдняя | Максімум хоць бы раз | Год | Мінімум хоць бы раз | Год |
| Шаркоўшчына | 12,3 | 32 | 1958 | -7 | 1918 |
| Віцебск | 12,6 | 31 | 1958 | -4 | 1972 |
| Гродна | 13,0 | 34 | 1898 | -6 | 1965 |
| Менск | 12,6 | 31 | 1899 | -4 | 1953 |
| Магілёў | 12.9 | 32 | 1889 | -5 | 1980 |
| Навагрудак | 12,1 | 30 | 1958 | -5 | 1918 |
| Касцюковічы | 13,2 | 32 | 1912 | -6 | 1918 |
| Брэст | 14,2 | 34 | 1892 | -4 | 1953 |
| Пінск | 13,9 | 33 | 1892 | -3 | 1953 |
| Гомель | 12,4 | 32 | 1979 | -5 | 1918 |

| Назва станцыі | Колькасць ападкаў у міліметрах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Сярэдняя | Максімум | Год | Мінімум | Год |
| Шаркоўшчына | 48 | 120 | 1968 | 4 | 1971 |
| Віцебск | 53 | 206 | 1928 | 5 | 1895 |
| Гродна | 45 | 109 | 1948 | 10 | 1947 |
| Менск | 58 | 120 | 1963 | 12 | 1917 |
| Магілёў | 57 | 184 | 1927 | 13 | 1949 |
| Навагрудак | 68 | 160 | 1973 | 9 | 1971 |
| Касцюковічы | 53 | 120 | 1928 | 13 | 1963 |
| Брэст | 50 | 123 | 1937 | 6 | 1914 |
| Пінск | 54 | 140 | 1933 | 9 | 1950 |
| Гомель | 54 | 116 | 1953 | 10 | 1979 |

**ШАБЛЯ**, зброя ў выглядзе клінка з выцягнутым лязом, увагнутай спінкай і вастрыём на канцы, якою сякуць і колюць. Паводле слоўніка Шыпавай слова ш а б л я цюркскага паходжання. Шаблі папярэднічаў прамы аднлязовы меч, які паявіўся у 5 ст. ў народаў стэпавых раёнаў Усходняй Еўропы. Шаблі вядомы у 8 - 9 ст. ў стэпавых качэўнікаў Усходняй Еўропы і Сярэдняй Азіі. У рускіх летапісах упершыню ўпамінаецца шабля ў 10 ст. У Заходняй Еўропе шаблі пранікаюць праз краіны Усходу ў 16 ст. Найбольш пашыраны турэцкі тып шаблі з шырокім клінком і завостраным з двух бакоў канцом і перс!дскі, з больш лёгкім, вузкім клінком. Шабля ( э с п а д р о н ) выкарыстоўваецца ў спартыўных спаборніцтвах сярод мужчын у фехтаванні.

**Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, т. 11, 1974.**

**ШАЙБАНІДАЎ ДЗЯРЖАВА**, феадальная дзяржава ў Сярэдняй Азіі ў 1500 - 98 гг. са сталіцай у С а м а р к а н д з е , з 1560 г. -- у Б у х а р ы . Створана ўзбекскай дынастыяй Ш а й б а н і д а ў пасля адваявання заснавальнікам дынастыі Мухаммедам Шайбані ў Цімурыдаў тэрыторыі Маравенахра і Самарканда. У 1510 г. Дзяржава Шайбанідаў распалася на дзьве узбекскія дзяржавы : уласна Дзяржаву Шайбанідаў у Маравенахры і Х і в і н с к а е х а н с т в а. Мела эканамічныя і дыпламатычныя зносіны з Расіяй. У перыяд існавання Дзяржавы Шайбанідаў за цюркамоўным насельніцтвам Маравенахра і Харасана замацаваўся этнонім " узбекі ". Значнае развіццё атрымала культура.

**ШАЙБАНІДЫ**, Ш э й б а н і д ы , дынастыя ўзбекскіх ханаў, нашчадкаў Шайбана -- унука Чынгісхана, брата Батыя. Заснавальнік -- Мухаммед Шайбані ( 1451 - 1510 ), які ў 1500 г. заснаваў Ш а й б а н і д а ў Д з я р ж а в у . Вядомы прадстаўнік дынастыі Шайбанідаў -- Абдулла-хан II ( 1557 - 98 гг. ; з 1583 г. -- хан усіх узбекаў ). Пасля смерці апошняга і забойства яго сына дынастыя Шайбанідаў звялася, да ўлады прыйшлі Аштарханіды ( 1599 - 1753 гг. ).

**УРГЕНЧ** ( да 1929 г. Новаўргенч ) горад ( з 1929 г. ), цэнтр Харэзмскай вобл. Узбекістана, у даліне Амудар'і, на канале Шалат ; чыг. станцыя. 128 тыс. жыхароў. Пасяленне на месцы Ургенча ўзнікла ў сярэдзіне 17 ст. ( гандлёвы кішлак Хівінскага ханства з невялікім умацаваннем ). У сучасным Ургенчы : заводы -- кормаўборачных машын, бавоўнаачышчальных машын, бавоўнаачышчальны, алейнаэкстракцыйны, рамонтна-экскаватарны, шынарамонтны ; шоўкаматальная, швейная, мэблявая фабрыкі ; вытворчасць будаўнічых матэрыялаў і інш. Педагагічны інстытут. Узбекскі тэатр музыкальнай драмы і камедыі. Карцінная галерэя. Збярогся комплекс Дашкін-Баба ( 9 - 10 ст.ст. ). Помнік сярэднеазіяцкаму вучонаму Мухаммеду бен Муса аль-Харэзмі ( 1983 г. ) і інш.

З розных даведнікаў.

**ФЕРГАНА** ( да 1910 г. Новы Маргелан, у 1910 - 24 Скобелеў ), горад, цэнтр Ферганскай вобласці Узбекістана, у паўднёвай частцы Ферганскай даліны ), чыг. станцыя. 200 тыс. жыхароў. Заснаваны ў 1876 - 77 гг. як рускі ваенны пост, на тэрыторыі далучанага да Расіі Какандскага ханства. У сучасным горадзе : нафтаперапрацоўчая, нафтахімічная, хімічная ( вытворчасць азотных угнаенняў, хімічнага валакна, пластмас і інш. ), лёгкая ( тэкстыльная, бавоўнаачышчальная, шоўкаматальная, абутковая ), харчовая прамысловасць. Педагагічны інстытут. Узбекскі тэатр музыкальнай драмы і камедыі, рускі драматычны тэатр. Краязнаўчы музей. Абеліск на брацкай магіле герояў, якія загінулі ў барацьбе за устанаўленне савецкай улады ( 1967 г. ), мемарыяльны комплекс у гонар воінаў, якія загінулі у гады Вялікай Айчыннай вайны ( 1977 г. ).

З розных даведнікаў.

**" ЯНЫЧАРСКАЯ МУЗЫКА "**, назва, пад якой у 17 - 18 ст.ст. ў Еўропе бытаваў ваенны аркестр янычараў ( ад турэцкага **yeniçeri**, літаральна – новае войска ; корпус рэгулярнай пяхоты Атаманскай арміі, які існаваў у сярэдзіне 14 - пачатку 19 ст.ст. ).

Тыповы янычарскі аркестр канца 17 - пачатку 18 ст.ст. ўключаў

вялікі барабан, 2 барабанчыкі, 7 медных труб, 5 шалмеяў ( папярэднік габоя ), 2 талеркі. Паяўленне " янычарскай музыкі " на Беларусі звязана з фарміраваннем у канцы 17 - пачатку 18 ст.ст. янычарскіх харугваў у войску Вялікага Княства Літоускага. У 1740 - 60 гады найбольш вядома " янычарская музыка " Радзівілаў у Нясвіжы і Гродне і М. К. Агінскага ў Слоніме ( 1788 г. ). У войску Вялікага Княства Літоўскага склад " янычарскай музыкі " вар'іраваўся па тыпах і колькасці духавых і ўдарных інструментаў ( у сярэдзіне 18 ст. ўключала 7 барабанаў, 2 тулумбасы, 2 талеркі, 6 сурмаў ). " Янычарская музыка " Агінскага складалася з 14 інструментаў ( барабаны, талеркі, сурмы, флейты ). Капэла янычарскай харугвы Булавы Вялікай Вялікага Княства Літоўскага ( Гродна, 1768 г. ) уключала 6 сурмаў, 3 талеркі, 3 тулумбасы, 6 барабанаў ( выканаўцы -- капельмайстар М. Арманкевіч, памочнік капельмайстра Я. Чмухоўскі, сурмачы -- Я. Дзянкевіч, А. Апанасевіч, Я. Вярцінскі, Т. Сабалеўскі, М. Валадкевіч ; барабаншчыкі -- С. Крыстыновіч, Т. Кісянскі, С. Керповіч, Т. Чархановіч, П. Андрушкевіч, А. Герман ; на талерках -- А. Вішнеўскі, Я. Васілеўскі, А. Альшэўскі ; на тулумбасах -- Т. Адамовіч, Я. Папяніцкі, Я. Кучынскі ) ; капэла янычарскай харугвы Булавы Польнай Вялікага Княства Літоўскага ( Высокае, 1764 г. ) -- 5 сурмаў, 2 талеркі, 3 тулумбасы, 6 барабанаў ( выканаўцы -- капельмайстар А. Лябудзеўскі, памочнік капельмайстра П. Шнуроўскі, сурмачы -- А. Федаровіч, С. Кукіс, Ф. Валадкевіч, Я. Бачкяноўскі ; на талерках -- Е. Кэрповіч, Ю. Лебядзёўскі ; на тулумбасах -- Ю. Вазлюкевіч, А. Мачыевіч, Г. Канічускі ; барабаншчыкі -- Т. Янушкевіч, Ю. Вайтулевіч, П. Марун, М. Скірмунт, М. Рагоўскі ).

Нягледзячы на рэзкае, крыклівае, пранізлівае гучанне, " янычарская музыка " у 18 ст. набыла значную папулярнасць. Яна гучала у час святочных і жалобных цырымоній, ваенных парадаў, суправаджала магнатаў у іх паездках. У рэпертуары " янычарскай музыкі " розныя маршы " на выпадак " ( вітальныя, жалобныя, паходныя ), танцавальная музыка ( мазурка і інш. ). Уласцівыя " янычарскай музыцы " тэмбравыя і ладарытмічныя асаблівасці адлюстраваны ў творах кампазітараў 18 - 19 ст.ст. -- А. Грэтры, К. Глюка, І. Гайдна, В. А. Моцарта, Л. Бетховена, Г. Малера і інш.

**В. У. Дадзіёмава.**

# КРЫМСКАТАТАРСКА--БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

## 1500 СЛОЎ І СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ АД ДЗЯДЗЬКІ ІСМАІЛА МЕМЕТАВА

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
| --- | --- |
| **П** | |
| Падиша | цар |
| падишалыкъ | царства |
| пайлаштырув | размеркаванне |
| пайтахт | сталіца |
| пайы | лай |
| пальто | паліто |
| палы | дарагі |
| панджа | лапа |
| папаган | папугай |
| пападие | рамонак |
| папаз | поп |
| пара | грошы |
| парлакъ | іскрысты, зззяючы |
| пармакъ | палец |
| парламакъ | разбіць |
| параход | параход |
| партизан | партызан |
| партия ( фыркъа ) | партыя |
| парча | часціна, часцінка |
| патлав | выбух |
| пахыл | зайздросны |
| пейгъаммбер дёгмеси | ландыш |
| пек балабан | гіганцкі |
| пек-бек | вельмі |
| пек белли | знакаміты |
| пек гузель | цудоўны, выдатны |
| пек якъшы | цудоўны, выдатны |
| пелит | дуб, жолуд |
| пенджере | вакно |
| перде | заслона, экран |

| | |
|---|---|
| перспектива | перспектыва |
| першиан | неахайны |
| пешраф | прэлюдыя |
| пиязламак | лашчыць, угаварваць |
| поезд | цягнік |
| полиция | паліцыя |
| полк | полк |
| полковник | палкоўнік |
| поплав | збор |
| портрет | партрэт |
| почта | пошта |
| президент | прэзідэнт |
| президиум | прэзідыум |
| принич | рыс |
| проблема | праблема |
| программа | праграма |
| прогресс | прагрэс |
| проект | праект ( план ) |
| пролетар | пралетарыат |
| пролетарджа | пралетарскі |
| профессия ( зенаат ) | прафесія, спецыяльнасць |
| профессор | прафесар |
| профсоюзны | прафсаюзны |
| процесс | працэс |
| псраф | шэпт, шэптам |
| псрдамакъ | шаптаць |
| птакъ | галіна, галінка |
| пугъу | пугач, філін |
| пул | луска, блёстка |
| пусла | компас |
| пускюль | кутасы, фрэнзлі, махры |
| пширмек | пячы |
| пширмек | прыгатаванне стравы |
| пштав | пісталет |

# Р

| | |
|---|---|
| Раатланув | адпачынак |
| раатланмакъ | адпачыць |
| радио | радыё |
| разылыкъ | згода |

